*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

**Штотыднёвая газета**
**(Выходзіць з сакавіка 1990 г.)**

**№ 17 (229)**

**26 красавіка 1995 г.**

**Кошт — 100 рублёў**

2 траўня праваслаўныя беларусы адзначаюць Радаўніцу — Дзень памінання продкаў на могілках, які прыпадае на аўторак пасля вялікоднага тыдня. У Беларусі гэты рэлігійны звычай усталяваўся на аснове старажытнай, надзвычай развітай традыцыі ўшанавання памяці «Дзядоў», што, як верылася, уплываюць на наша жыццё «з таго свету». У наш час Радаўніца становіцца днём ушанавання і памяці ахвяр сталінскага ды гітлераўскага генацыду.

***Рыгор БАРАДУЛІН***

## *На Радаўніцу*

На Радаўніцу свечку запалю.
Схілюся. Змоўкну.
Ціха памалюся.
Даверыўшыся вусцішнасці й скрусе,
Успомню тых,
Хто паўтарыў зямлю.
Тут пры святле задуманага дня
Гаркотна стыць заплаканаму воску.
А там,
Дзе ўсё павінна быць па-боску,
Ці выплача сябе душа да дна?
Я помню ўсіх,
Старых і маладых.
З іх кожны мне
Сваю пакінуў звычку.
І полымя нявінную каплічку
Хістае
Чыйсьці непрысутны ўздых.

## ПОСТУП ТЫДНЯ



○ **13 КРАСАВІКА — АПОШНІ ПРАЦОЎНЫ ДЗЕНЬ БЕЛАРУСКАГА ПАРЛАМЕНТА.** У чарговы раз праігнараваўшы сваё галасаванне, што было некалькі дзён назад, Вярхоўны Савет вярнуўся да праблемы рэферэндуму і падтрымаў усе прапановы Прэзідэнта. І як падрахунак усёй сваёй працы, дэпутаты зрабілі дзяржаўным святам 7-ае лістапада — Дзень Кастрычніцкай рэвалюцыі. У галасаванні апазіцыя не ўдзельнічала.

○ ***РЭГІСТРАЦЫЮ КАНДЫДАТАЎ У ДЭПУТАТЫ НЕ ПРАЙШЛО КАЛЯ 170 ЧАЛАВЕК.*** *Паводле папярэдніх звестак, зарэгістравана 2360 кандыдатаў. У Брэсцкай вобласці акруговыя камісіі адмовілі ў рэгістрацыі 19 вылучаным кандыдатам, у Віцебскай — 23, Гомельскай — 35, Гродзенскай — 27, Менскай — 33, Магілёўскай — 24, а ў Менску — усяго 8. Пасля рэгістрацыі ў некаторых акругах значна паменела кандыдатаў. Так, у Антопальскай выбарчай акрузе № 17 застаўся адзін прэтэндэнт на дэпутацкі мандат, у Міёрскай № 48 — два, у Любанскай № 192 — 3 кандыдаты. Рэкордная колькасць зарэгістраваных кандыдатаў: 23 — у Менску, у Захараўскай акрузе № 239.*

○ **ПА ГРОДЗЕНСКАЙ ВОБЛАСЦІ СЯРОД 248 ПРЭТЭНДЭНТАЎ НА ДЭПУТАЦКІ МАНДАТ** больш за ўсё работнікаў адукацыі (36), праваахоўных органаў (23), дзяржслужачых і прадпрымальнікаў (па 21), кіраўнікоў калгасаў і саўгасаў (17). Сярод партый найбольшае прадстаўніцтва маюць БНФ (29), Партыя камуністаў Беларусі і аграрная партыя (па 21), Партыя народнай згоды (15).

***ГОРКАЕ ПРЫЗНАННЕ КЕБІЧА.*** *Стар. 2.*

***ПСІХОЛАГ — ВЫБАРШЧЫКУ.*** *Стар. 3.*



## Сеем, беларусы!

Якімі б ні былі ў нас палітычныя варункі, а сеяць усё роўна трэба своечасова, бо нездарма кажуць: «Веснавы дзень — год корміць». Засяваючы палеткі, будзем клапаціцца і пра ўраджай беларускасці. А здольныя на гэта толькі сапраўдныя гаспадары роднай зямлі. Таму многія спадзяванні і на беларускае фермерства. Вось і на гэтую руплівую сям'ю з вёскі Пабрадзяны, што ў Камянецкім раёне.

У ліку першых на Берасцейшчыне адважыліся Марыя Сцяпанаўна Краўчук (муж Георгій Несцеравіч заўчасна памёр) ды трое яе сыноў. Людзі яны руплівыя, гаспадарлівыя, і справа неўзабаве наладзілася, фермерская гаспадарка пашыраецца. Яны трымаюць жывёлу, плануюць вырошчваць зерневыя, бульбу, буракі, травы. Так што Бог у помач! Быць на зямлі сапраўдным гаспадаром — справа і высакародная, і патрыятычная.

**На здымку: Марыя Сцяпанаўна Краўчук** з малодшым сынам **Алегам** і нявесткай **Аленай**.

**Фота Эдуарда КАБЯКА, Белінфарм.**

## Парушаецца Канстытуцыя Рэспублікі – артыкулы 3, 13, 14, 15, 17, 21, 22, 50, 59
## Парушаецца Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека – артыкулы 2, 22, 23, 26, 27

Прадстаўнікі шэрага грамадскіх арганізацый Беларусі звярнуліся да Прадстаўніцтва Арганізацыі Аб'яднаных Нацый у Рэспубліцы Беларусь, каб праінфармаваць пра дыскрымінацыю беларусаў па нацыянальнай прыкмеце, пра парушэнне чалавечых правоў і правоў беларускіх дзяцей.

У Рэспубліцы Беларусь, гаворыцца ў Звароце, больш за 300 тысяч дзяцей вучацца ў сярэдніх школах у роднай беларускай мове, якая, паводле Канстытуцыі краіны, з'яўляецца дзяржаўнай. Тым не менш, атрымаўшы сярэднюю адукацыю, выпускнікі беларускіх школаў не маюць магчымасці працягваць яе на беларускай мове ў вышэйшых навучальных установах, бо ў Беларусі няма ніводнага нацыянальнага універсітэта. Уся вышэйшая адукацыя вядзецца ў замежнай мове былой краіны-каланізатара — рускай. У 1995 годзе сярэднія школы з беларускай мовай навучання заканчваюць 13 тысяч вучняў, і яны, такім чынам, не змогуць рэалізаваць свае чалавечыя правы ў галіне вышэйшай адукацыі.

Неаднаразовыя звароты да дзяржаўных органаў Беларусі: Міністэрства адукацыі, Савета Міністраў, Вярхоўнага Савета і апошні зварот у кастрычніку 1994 года да Прэзідэнта Беларусі засталіся без станоўчага адказу. Мы вымушаны апеляваць, падкрэсліваюць аўтары дакумента, да міжнароднай супольнасці, каб яна праз ААН аказала адпаведны яе паўнамоцтвам уплыў на дзяржаўныя інстытуты Рэспублікі Беларусь дзеля забеспячэння імі правоў чалавека на атрыманне адукацыі ў роднай мове.

Мы лічым, гаворыцца ў Звароце, што немагчымасць дзецьмі атрымаць вышэйшую адукацыю ў беларускай мове з'яўляецца парушэннем артыкулаў 3, 13, 14, 15, 17, 21, 22, 50, 59 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і артыкулаў 2, 22, 23, 26, 27 Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, якія ратыфікаваны Беларуссю як членам ААН. Лічым неабходным прыезд на Беларусь камісій ААН па правах чалавека і правах дзіцяці. Гатовы прадставіць іх увазе дакладныя і змястоўныя матэрыялы па ўзнятым пытанні.

Дакумент падпісаны:
Грамадскім Каардынацыйным Камітэтам абароны беларускай мовы, які прадстаўляе:
Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны;
Гарадскі бацькоўскі камітэт беларускамоўных класаў і школ;
Менскую гарадскую арганізацыю ТБМ імя Ф.Скарыны;
Беларускі свабодны прафсаюз педагогаў;
Саюз пісьменнікаў Беларусі;
Творчую суполку мастакоў «Пагоня»;
Згуртаванне беларускай шляхты;
Краязнаўчае таварыства;
Беларускі Народны Фронт «Адраджэньне»;
Нацыянальна-дэмакратычную партыю Беларусі;
Беларускую хрысціянска-дэмакратычную партыю;
Жаночы хрысціянска-дэмакратычны рух Беларусі;
Беларускую партыю свабоды;
Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне ветэранаў;
Свабодныя прафсаюзы Беларусі;
Мартыралог Беларусі;
Беларускае згуртаванне вайскоўцаў;
Беларускую нацыянальную партыю;
Усебеларускі жаночы фонд Ефрасінні Полацкай;
Беларускую сялянскую партыю;
Дэпутацкі клуб г.Менска «Дэпутаты — за рэформы»;
Менскі культурна-асветніцкі клуб «Спадчына»;
Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына»;
З'адзіночанне беларускіх студэнтаў;
Свабодны прафсаюз студэнтаў БДУ;
Беларускую сацыял-дэмакратычную Грамаду.

**12.03.1995 г.**

## Годна адзначыць свята 50-х угодкаў перамогі над фашызмам

Чалавецтва ўрачыста адзначае перамогу над гітлераўскім фашызмам — адной з самых пачварных таталітарных сістэм сучаснасці.

Другая сусветная вайна, гаворыцца ў Звароце, для беларускага народа пачалася 1 верасня 1939 г. з нападу гітлераўскай Германіі на Польшчу. Беларусы ў складзе польскай арміі гераічна баранілі Вэстэрплятэ, Познань, Варшаву...

У чэрвені 1941 года распачаўся новы этап барацьбы беларускага народа з фашызмам. Пратэст супраць акупантаў на нашай зямлі зыходзіў з нацыянальнай годнасці беларусаў. Ужо ў першы перыяд чарговага акупацыйнага рэжыму ў Беларусі разгарнулася падпольная дзейнасць і партызанскі рух, якія прымалі форму нацыянальна-вызвольнай барацьбы.

Гераізм беларускага народа, адзначаецца ў Звароце, праявіўся не толькі ў непасрэдных баявых дзеяннях супраць ворагаў, але і ў спагадлівасці да іншых людзей, якія апынуліся ў безнадзейным становішчы. Знясіленыя савецкімі рэпрэсіямі, прымусовай калекты-

*(Працяг на с.2.)*

*У газетах*

## Горкае прызнанне Вячаслава Кебіча адносна «Мары ўсяго жыцця»

У свой час стала нават крылатай фраза Вячаслава Кебіча пра інтэграцыю з Расіяй. Гэта ён лічыў «марай усяго свайго жыцця». Акрамя нейкіх, магчыма, асабістых прычын, былы старшыня Савета Міністраў, усхацеўшы стаць Прэзідэнтам, лічыў сваё памкненне да «воссоединения» лепшым сродкам перамагчы на выбарах: маўляў, толькі за адно гэта народ пакладзе яму ўсе галасы. Атрымалася наадварот. Але патрэбна аддаць даніну павагі Вячаславу Францавічу. Апынуўшыся ў выніку свайго змагання з незалежнасцю Беларусі ў пенсіянерах, Кебіч самакрытычна здолеў пераасэнсаваць уласную дзейнасць і погляды. Адной з галоўных памылак, што абумовіла паражэнне на прэзідэнцкіх выбарах, як ён цяпер лічыць, была гэтая самая ягоная «мара ўсяго жыцця». Ён вельмі памыліўся, сказаў Вячаслаў Кебіч карэспандэнту газеты «Свободные новости» (№ 12, 95), «што безаглядна паверыў магчымасці стварыць саюз з Расіяй. Паверыў кіраўніцтву Расіі. Народ гэта адштурхнула, — заўважыў былы прэм'ер. — Складвалася ўражанне, быццам Кебіч сам выдумляе тэрміны аб'яднання... Цяпер я разумею, — сказаў Вячаслаў Кебіч, — ні пра якое аб'яднанне ў былым выглядзе размовы быць не можа. Мы жывём з расіянамі ў розных вымярэннях. Сітуацыя зусім іншая».

**У.А.**

## Годна адзначыць свята 50-х угодкаў перамогі над фашызмам

*(Працяг. Пачатак на с.1.)*

візацыяй, скалечаныя гэтак званым сацыялістычным будаўніцтвам, беларускія сем'і ў экстрэмальных умовах акупацыйнага рэжыму давалі прытулак тысячам акружэнцаў, антыфашыстам-уцекачам з нямецкай арміі і палону, яўрэям, выратоўваючы іх ад смерці. Нават у ваенных умовах адданыя сваёй справе настаўнікі, святары, лекары, дбаючы пра выжыванне беларускага народа, адчынялі школы для дзетак, цэрквы і касцёлы для вернікаў, лячылі хворых і параненых.

Беларусы геранчна змагаліся на ўсіх франтах Другой сусветнай вайны, бароначы Брэст і Менск, Магілёў і Смаленск, Маскву... Значны ўклад у перамогу над фашысцкай Германіяй унеслі беларускія жаўнеры падчас наступальных аперацый краінаў антыгітлераўскай супольнасці на франтах Еўропы і Афрыкі. Асабліва значэнне для разгрому гітлераўскіх груповак на тэрыторыі Беларусі меў масавы ўдзел у ім беларускіх партызанаў.

Пацвярджэннем геранчнага чыну беларусаў у барацьбе з фашызмам з'яўляецца тое, што яны займаюць пачэснае месца сярод прадстаўнікоў іншых народаў, якія адзначаны баявымі ўзнагародамі дзяржаў антыгітлераўскай кааліцыі. Беручы пад увагу мужнае змаганне беларускага народа супраць фашысцкіх сілаў і тыя велізарныя ахвяры, якія ён панёс у гэтай барацьбе, міжнародная супольнасць прызнала права Беларусі быць краінай-заснавальніцай ААН.

Святкаванне 50-х угодкаў перамогі над фашызмам у нашай краіне, адзначаецца далей у Звароце, павінна прайсці пад знакам шчырага клопату пра ветэранаў-пераможцаў. Але гэта не павінна звесціся толькі да гучных слоў удзячнасці франтавікам, партызанам, падпольшчыкам. Неадкладнае паляпшэнне ўмоў штодзённага жыцця ўдзельнікаў антыфашысцкага змагання — святы абавязак дзяржавы і грамадства.

Ступень цывілізаванасці беларускага грамадства павінна выявіцца таксама праз ушанаванне і догляд месцаў масавага забойства фашыстамі цывільных населнікаў. Месцы, дзе знаходзіліся спаленыя разам са сваімі жыхарамі беларускія вёскі, знішчаныя яўрэйскія гета, як помнікі смутку і напамінкаў аб небяспецы фашызму, трэба ўзяць пад ахову дзяржавы. Дзяржаўныя ўлады павінны паклапаціцца пра былых вязняў канцлагераў, прымусова вывезеных на працу ў Германію грамадзян, асабліва непаўналетніх. Наспела патрэба больш дакладнага перагляду сфабрыкаваных ваеннымі трыбуналамі судовых спраў тых асобаў, якія панеслі пакаранне толькі з-за палітычных перакананняў ці выказванняў думак, якія не ўтрымліваюць злачынства супраць чалавецтва.

Сведчаннем вяршэнства маральнасці ў нашай краіне будзе ўраўнаванне ў правах усіх грамадзян Беларусі, якія змагаліся супраць фашызму, прызнанне іх дзяржавай паўнавартаснымі ўдзельнікамі Другой сусветнай вайны. І як вынік — аднолькавая для ўсіх сістэма льготаў, дабротаў і клопатаў. Гэта павінна распаўсюджвацца на грамадзян Беларусі, якія ваявалі ў партызанскіх атрадах еўрапейскіх краін, якія бралі чынны ўдзел у баявых аперацыях у Еўропе і Афрыцы, штурмавалі Кёнігсберг, Берлін...

Сёння, падкрэсліваецца ў Звароце, святкуючы юбілей заканчэння Другой сусветнай вайны, мы адзначаем магутную сілу выжывання і самазахавання беларускага народа. Гэта свята перамогі Свабоды і Дэмакратыі над імкненнем фашысцкай і камуністычнай сістэм панаваць па ўсім свеце.

Беларусь выйшла з Другой сусветнай вайны, панёсшы велізарныя людскія, матэрыяльныя і духоўныя страты. Кожны чацвёрты яе грамадзянін стаў смяротнаю ахвяраю гэтай вайны. Таму жаданне любой палітычнай сілы прысвоіць сабе геранчны чын беларускага народа і манапалізаваць афіцыйнае ўшанаванне яго ў грамадскіх месцах ці ў сферах масавай інфармацыі будзе расцэньвацца як спекулятыўны сродак палітыка-прапагандысцкай агітацыі, як цынізм і здзек са светлай памяці аддаўшых сваё жыццё ў барацьбе з фашызмам. Гэта будзе не што іншае, як гвалт над перспектывай існавання дэмакратычнай незалежнай Беларусі, узмоцніць канкрэтныя крокі пэўных палітычных груповак у іх спробах узнаўлення таталітарнай сістэмы на нашай зямлі ці то ў форме камунафашызму, ці то ў форме далучэння да імперыі гэтак званага «старэйшага брата».

Святкаванне 50-годдзя завяршэння Другой сусветнай вайны ў Еўропе павінна прайсці ў нашай краіне пад сцягамі краін-пераможцаў гітлераўскай кааліцыі і пад гістарычнымі і сённяшнімі дзяржаўнымі сімваламі Беларусі — гербам «Пагоня», бел-чырвона-белым сцягам, у якіх акумуляваны гераізм барацьбы беларускага народа за свабоду і незалежнасць Бацькаўшчыны.

Гэтага вымагае не толькі ўнутраная сітуацыя ў нашай краіне, але і традыцыі еўрапейскіх народаў.

На заканчэнне ў Звароце падкрэсліваецца:

Кожная спроба ўхіліцца ад выкарыстання дзяржаўных сімвалаў ці беларускай мовы любой дзяржаўнай асобаю, у тым ліку і Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь, падчас юбілейных урачыстасцяў будзе азначаць варожасць да беларускага народа, замах на яго годнасць і суверэнітэт Беларусі.

**Грамадскі Аргкамітэт па святкаванні**
**50-х угодкаў заканчэння Другой сусветнай вайны ў Еўропе.**



## Уладзімір КАРПЯНКОЎ — сялянскі сын з Магілёўшчыны

***З пісьменнікам Віктарам Карамазавым гутарыць рэдактар грамадска-культурнага аддзела «Нашага слова» Алесь Мікалайчанка.***

**— Віктар Філімонавіч! Памятаю Вашыя выступленні ў друку пра тое, што Вы больш займацца палітыкай не будзеце, што проста збоку паглядзіце, як на гэтай ніве будуць шчыраваць іншыя і да чаго канкрэтна такое шчыраванне прывядзе. Прабачце, гэта пераказ апублікаванага Вамі, а не дакладная цытата... Але вось да нас дайшлі чуткі: Вы, паважаны, увайшлі ў групу падтрымкі беларускага прадпрымальніка Уладзіміра Аляксандравіча Карпянкова, параўнаўча маладога чалавека, які балатуецца кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета Беларусі дзесьці на Магілёўшчыне. Мусіць, вырашылі ўсё ж заняцца палітыкай?**

— Дзіўныя вы людзі — журналісты. Ва ўсім вам бачыцца палітыка. Уладзімір Аляксандравіч Карпянкоў — для мяне проста Валодзя — гэта, па-першае, мой зямляк, з Чэрыкава, па-другое, сын майго сябра, былога франтавіка Аляксандра Васільевіча Карпянкова (на вялікі жаль, цяпер нябожчыка) — прататыпа галоўнага героя майго рамана «Пушча» партызана Валошкі. Так што ўдзел пісьменніка Віктара Карамазава ў гэтай палітычнай акцыі — простая асабістая справа. Тым больш, Уладзіміру ..раз вельмі патрабуецца падтрымка добрых людзей.

**— Упэўнены, Віктар Філімонавіч, Вы не згадзіліся б дапамагаць дрэннаму чалавеку, чалавеку без высокіх ідэалаў у жыцці — хай бы сабе Вы сто разоў мацней паважалі ягонага бацьку ды шанавалі б памяць сябра...**

— Тут Вы маеце рацыю. Аляксандр Васільевіч і Валянціна Геронцьеўна ўзгадавалі і выхавалі добрага сына і сумленнага чалавека. Я, напрыклад, раней не задумваўся пра тое, чаму Уладзімір у сваім штодзённым побыце карыстаецца не толькі рускай, але і беларускай мовай, як і ягоная жонка — Валянціна Васільеўна. А гэта ж ён узяў у спадчыну ад бацькі, Аляксандра Васільевіча — і мову, і любоў да Радзімы, да Беларусі. Здавалася б, бізнесмен цікавіцца толькі справай. Але ж Беларусь яму патрэбна незалежная, з моцнай эканомікай, хаця і не ізаляваная ад Сусвету — ні ад Расіі з Украінай, ні ад Прыбалтыкі з Еўропай ды Амерыкай. Паставіць жа свой бізнес ён можа добра, на карысць народу толькі ў суверэннай краіне. І толькі ў тым разе, калі яму і такім, як ён людзям справы, ад дзяржавы будзе толькі спрыянне...

**— Бізнес — гэта цяжкая, складаная праца. А Вы самі ведаеце, як маючыя ўладу сягоння ставяцца да сумленных прадпрымальнікаў... Ці гатовы сын прататыпа галоўнага героя Вашага рамана вытрымаць усе нягоды? Як у яго з запасам трываласці?..**

— Ва Уладзіміра такі запас маецца. І працавітасці не пазычаць. І нервы сталёвыя. І галава, што гаворыцца, добра варыць. Ад бацькі, які быў майстрам на ўсе рукі і які мог зрабіць усё — ад кладкі печы і будаўніцтва хаты да любой дробязнай рэчы ў той хаце, ён пераняў незвычайную працавітасць і ўмельства. Ведаеце, у Валодзі, акрамя дыплома аб вышэйшай адукацыі, дзе запісана ягоная асноўная прафесія — інжынер лясной гаспадаркі, яшчэ маецца ажно трынаццаць афіцыйна пацверджаных спецыяльнасцей: вадзіцель аўтамабіля, камбайнер, муляр, сталяр, зваршчык, бензапільшчык, токар, апаратчык мяса-малочнай прамысловасці і г.д. Я памятаю, як ён вучыўся ў тэхналагічным інстытуце. Бацька прасіў мяне, каб я заходзіў іншы раз да яго ў студэнцкі інтэрнат, цікавіўся хлопцам. Дык вось, як ні зайду, усё няма і няма — прападае дзесьці. Я нават аднойчы ўстрывожыўся: а раптам з якой кампаніяй звязаўся юнак? Тут, у сталіцы, спакусаў розных зашмат... І ўсё ж неяк упільнаваў земляка. Пытаюся гэтак асцярожненька: што, браце, у вольны час робіш, куды ходзіш? Высветлілася, акрамя галоўнай справы — вучобы, ён бавіць час на Галоўпаштамце, працуе там слесарам, а яшчэ ён — сталяр у першым навучальным корпусе, а яшчэ ён — грузчык у сталоўцы нейкай, а яшчэ ён — заядлы спартсмен, член зборнай каманды інстытута па лёгкай атлетыцы і пяцібор'і ГПА, а яшчэ ён — старшыня міжвузаўскага клуба «Сірыус»... Думаеце, што з прычыны такіх звышнагрузак Уладзімір ледзь-ледзь з вучобай спраўляўся? Не, калега. Інстытут ён скончыў з «чырвоным» дыпломам, на пяцёркі. Проста выдатнейшым чынам распарадзіўся з прывілеяй, даравай рэктарам, — вольным наведваннем лекцый. Акрамя стыпендыі, заўжды меў у кішэні «свежую» капейчыну...

**— І тым не менш, Ваш дружбак мае патрэбу ў падтрымцы добрых людзей, як Вы кажаце...**

— Мае. Бо вядзе няроўны бой з яе Вялікасцю Бюракратыяй, чыноўнікамі старога ўзору, якія Уладзіміру і ягонай справе чыняць разор, няславяць яго імя ў друку, спрабуюць наогул зжыць з белага свету. Уявіце малюнак: працаваў ён у 1983—1987 гадах сакратаром Бялыніцкага райкама камсамола, затым інструктарам райкама КПБ. Працаваў, наколькі дазвалялі тыя рамкі, сумленна, у гарбачоўскую перабудову верыў, думаў, другую рэвалюцыю робіць. Ну і пачаў патроху з начальствам уласным заядацца. Ведаеце, што з Уладзімірам магілёўскія партыйныя органы зрабілі? Накіравалі працаваць на радзіму, у Чэрыкаўскі раён, сакратаром парткама ў саўгас «Сцяг» — гэта ў знакамітых сваёй радыяцыйнай забруджанасцю Чудзянах: 160 кюры на квадратны кіламетр. Валодзя быў чалавек не дурны, зразумеў сітуацыю. Да яго тут усіх членаў КПСС, якія з'язджалі з той мясцовасці, з партыі выключалі, а гэты хлопец — не выключаў, проста здымаў з партыйнага ўліку ў сувязі з выездам. І вось так дзейнічаў, пакуль сам дозу добрую не назбіраў... А як назбіраў, захварэў, то зноў у Бялынічы падаўся. Вось там і арганізаваў фірму, аграпрадпрыемства «Друцк», каб паказаць, што можна і з нуля пачаць ды й разгарнуць добрую справу на беларускай зямліцы...

**— Любіць гэтую зямельку,.. любіць людзей, якія яе даглядаюць, па-мойму, — найвышэйшы патрыятызм.**

— Згодзен. Патрыятычная ці нацыянальная ідэя, зразумела, без любві да роднага слова, роднай культуры — пусты гук. Але ж, згадзіцеся, калі няма любові да сваёй зямлі, бацькаўшчыны і дзядзіны — гэта не толькі ніякая ідэя, а злачынны камуфляж. Ва Уладзіміра неяк спалучаецца і цікавасць да беларускай мовы і літаратуры, мастацтва наогул, з любоўю менавіта да зямлі. Што такое, скажам, была ягоная «Друцк»? Па 25 сотак зямлі для кожнага работніка (а іх там мелася больш паўсотні чалавек). Пры гэтым надзелы апрацоўваліся тэхнікай аграпрадпрыемства... Затым — звераферма, дзе вырошчвалася «мяккае золата» — норкі. Малочнатаварная ферма. Птушкаферма. Раслінаводства. Цэх дрэваапрацоўкі. Цэх металаліцця. Плюс — пасрэдніцкія камерцыйныя аперацыі. Завоз з іншых краін СНД гаруча-змазачных матэрыялаў, прадуктаў

*У газетах*

### Як нажываюцца на нашай гісторыі

«...У Нацыянальную бібліятэку перададзены два экземпляры факсімільна адноўленага «Радзівілаўскага летапісу». Арыгінал рукапісу XV стагоддзя з больш чым 600 каляровымі мініяцюрамі захоўваецца ў бібліятэцы расійскай Акадэміі навук у Санкт-Пецярбургу, а атрымаць двухтомную каляровую факсімільную копію адмовіліся ўсе абласныя бібліятэкі і музеі Беларусі, акрамя Нацыянальнай бібліятэкі. Выданне наша Міністэрства культуры і друку купляе ў санкт-пецярбургскага выдавецтва «Глагол» па даволі высокай цане — 250 долараў за кожны экземпляр».

**(«Беларускі час», № 13, 1995 г.)**

### Фактычнаму двухмоўю нішто не пагражае

**Дырэктар Інстытута мовазнаўства А.І.ПАДЛУЖНЫ адказвае на пытанні журналіста Аляксандра ЮРЫНА:**

«...Прайшло 5 гадоў пасля прыняцця Закона «Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь», і раптам абвастраецца пытанне аб наданні рускай мове статуса дзяржаўнай. Прычым тыя, хто гэтага патрабуе, добра разумеюць: дзве ўзаемна зразумелыя мовы не могуць суіснаваць, і таму руская мова будзе пануючай у дзяржаўных структурах, што фактычна паставіць крыж на беларускай мове. Сур'ёзных падстаў для абвяшчэння дзяржаўнай і рускай мовы няма, бо Закон аб мовах не накіраваны на ліквідацыю двухмоўя. Ён гарантуе кожнаму грамадзяніну свабоднае карыстанне любой мовай, а вучонаму, напрыклад, забяспечвае права публікаваць вынікі сваіх даследаванняў на любой мове».

**(«Навіны Акадэміі навук Беларусі», № 11, 1995 г.)**

### Дзяржаўны дзеяч і вучоны-фізік захапляецца беларушчынай

**Намеснік старшыні Гродзенскага гарвыканкама, кандыдат фізіка-матэматычных навук Аляксандр МАЛІНКЕВІЧ прызнаецца журналісту Г.АСТРОЎСКАМУ:**

«...Па-ранейшаму захапляюся гісторыяй Беларусі, краязнаўствам. Да сённяшняга дня адчуваю ў гэтым духоўную падтрымку майго сябра Міхася Ткачова, якога, на жаль, ужо няма сярод нас. Мару зрабіць на дзедаўскай радзіме ў вёсцы Берштьі Шчучынскага раёна мясцовы этнаграфічны музей. Ужо перанёс туды стогадовую хату, накрыў яе саломай, сабраў нямала экспанатаў. Шкада, што не хапае часу. Дарэчы, 11 ліпеня 1496 года кароль Аляксандр Ягелончык падпісаў прывілей аб наданні Горадні поўнага магдэбургскага праваў... Берштах. Праз год будзем святкаваць 500-гадовы юбілей. Шчыра запрашаю!»

**(«Пагоня», № 12, 1995 г.)**

харчавання, тавараў шырокага ўжытку, іх продаж праз уласную краму. Карацей, грошы ў дзяржавы не прасілі. Атрымлівалі больш за іншых у сваім раёне. А яшчэ дручанцы задумалі і пачалі ажыццяўляць добрую справу, скіраваную на адраджэнне гістарычнай памяці жыхароў тых жа Бялынічаў: разам з тамтэйшым архітэктарам спадаром Анісімавым распрацавалі праект аднаўлення цэлага квартала старажытнай забудовы ў цэнтры гарадскога пасёлка. Нават зрабілі добры кавалак будаўніча-рэканструкцыйных работ... «Друць» была прыкладам гаспадаркі новага тыпу. Яе трэба было падтрымаць...

**— Неяк Вы пра ўсё гаворыце ў мінулым часе, Віктар Філімонавіч...**

— На жаль, Вы заўважылі правільна — усё гэта ў мінулым часе. Бо весці аднаўленне старажытнага квартала далей не даў Бялыніцкі райсавет з райвыканкамам, ад справы гэтай «Друць» адхілілі, бо аграпрадпрыемства пацікавілася, ці будзе ў недалёкай будучыні ў працоўнага калектыву права на карыстанне хаця б часткі аднаўленай будыніны, і перадалі ўсё нейкай іншай ПМК. А саму «Друць» засыпалі праверкамі па прычыне «сигналов трудящихся». Тамтэйшая падатковая міліцыя ды падатковая інспекцыя, органы ўнутраных спраў Магілёўскага аблвыканкама амаль два гады шляхам бясконцых праверак, якія суправаджаліся арыштам банкаўскага рахунку, апячатваннем магазіна, складаў з прадуктамі, што хутка псуюцца, выграбаннем дакументацыі, узломам памяшканняў ды іх фактычным вобыскам, «здзіраннем» нібыта ўтоеных падаткаў, канфіскацыяй асобных тавараў, апячатваннем аўтатэхнікі, давялі аграпрадпрыемства да эканамічнай смерці. Усё гэта было зроблена незаконна, пра што ёсць адпаведныя заключэнні Магілёўскай абласной пракуратуры. Толькі Бялыніцкая райпракуратура некалькі разоў «зарублівала» падрыхтаваныя да ўзбуджэння крымінальныя справы супраць Уладзіміра. Бо за гэтым чалавекам не было крыміналу. А вось, між іншым, з рэцыдывамі буйнога хабарніцтва ў Магілёўскай абласной падатковай інспекцыі зараз разбіраюцца праваахоўчыя органы... Карацей, цяпер дручанцы з дапамогай абласной пракуратуры пасля ўсіх нягод будуць спаганяць з вінаватых урон, які ацэньваецца ў 100 тысяч долараў...

**— Мусіць, Віктар Філімонавіч, пасля таго, як Вы ўжо, што гаворыцца, засвоілі такі цікавы дакументальны матэрыял, нештачка і напішаце з жанру мастацкай публіцыстыкі?**

— Так, усё тое, што я Вам расказаў, — апошні раздзел у маім дзённіку пра гісторыю славутай сялянскай беларускай сям'і Карпянковых, пачынаючы ад часоў вайны Расіі з напалеонаўскай Францыяй. Гэта сям'я перажыла і ўзлёты, і ліхалецці, нават сталінскі генацыд. І выжыла. Не хапае ў нарысе пакуль канцоўкі. Але яе, аптымістычную, шчаслівую, створыць само жыццё... А Уладзіміру Карпянкову, паўтару, я жадаю дзейснай падтрымкі ўсіх добрых людзей. Гэта будзе на карысць народа.

**Распытваў**
**Алесь МІКАЛАЙЧАНКА.**

## Кангрэс беларусістаў

**16—18 траўня 1995 г. у Менску** павінен адбыцца II Міжнародны кангрэс беларусістаў. Асноўная тэматыка: «Беларусь паміж Усходам і Захадам»: «Праблемы сацыяэтнічнага, канфесійнага і культурнага ўзаемадзеяння, дыялогу і сінтэзу». Адзін дзень плануецца адвесці на пасяджэнні «круглых сталоў», прысвечаных узаемадзеянню з непасрэднымі суседзямі Беларусі — Латвіяй, Летувой, Польшчай, Расіяй і Украінай.

**Г.КАЖАМЯКІН.**

## Даты і падзеі ў траўні

ДАТЫ І ПАДЗЕІ Ў ТРАЎНІ

**1 траўня** — Дзень працы.

**2 траўня** — Радуніца.

75 гадоў з дня нараджэння Д.В. Квіцарыдзе, грузінскага пісьменніка, удзельніка партызанскага руху на Беларусі ў Айчынную вайну, аўтара шматлікіх твораў пра гэты перыяд у жыцці нашага народа.

50 гадоў назад (1945) савецкія войскі авалодалі сталіцай Германіі — Берлінам.

**3 траўня** — 295 гадоў назад (1700) пачалося антыфеадальнае выступленне сялян Слонімскага староства (скончылася ў 1703).

**4 траўня** — 20 гадоў назад (1975) заснаваны Менскі універсітэт культуры.

**5 траўня** — 60 гадоў з дня нараджэння Г.К.Усціновіч, беларускага мовазнаўца, кандыдата філалагічных навук.

**6 траўня** — 90 гадоў з дня нараджэння Ю.П.Гаўрука (1905—1979), беларускага перакладчыка і паэта.

**7 траўня** — Дзень радыё, свята работнікаў усіх галін сувязі.

70 гадоў з часу выхаду (травень 1925 г.) першага зборніка К.Чорнага «Апавяданні».

**8 траўня** — 155 гадоў з дня нараджэння П.А.Гільтэбранта (1840—1905), рускага археолага, этнографа, фальклярыста, гісторыка, збіральніка беларускага фальклору, выдаўца Тураўскага евангелля.

Сусветны дзень Чырвонага Крыжа і Чырвонага Паўмесяца.

50 гадоў з дня падпісання (1945) у Берліне Акта аб безагаворачнай капітуляцыі германскіх узброеных сіл.

**9 траўня** — Дзень Перамогі.

**10 траўня** — 275 гадоў назад (1720) адбылося антыфеадальнае выступленне сялян у Слонімскім старостве.

225 гадоў назад (1740) адбылося выступленне сялян Магілёўскай эканоміі супраць Брэсцкай царкоўнай уніі.

**11 траўня** — 140 гадоў з дня заснавання (1855) Я.П.Тышкевічам Віленскага музея старажытнасцей (адкрыты для агляду 1.12.1856 у будынку бібліятэкі Віленскага універсітэта).

**13 траўня** — 90 гадоў з дня нараджэння С.М.Станюты, беларускай актрысы, народнай артысткі СССР.

**15 траўня** — 80 гадоў з дня нараджэння Дз.А.Палітыкі (1915—1965), беларускага крытыка і літаратуразнаўца, кандыдата філалагічных навук.

**17 траўня** — 150 гадоў з дня нараджэння М.Я.Нікіфароўскага (1845—1910), беларускага этнографа і фальклярыста.

35 гадоў назад (1960) у Менску ўрачыста адкрыты Літаратурны музей Я.Купалы ў новым будынку.

**18 траўня** — Міжнародны дзень музеяў.

**21 траўня** — 155 гадоў назад (1840) у Менску пачаў дзейнасць тэатр, арганізаваны В.І.Дуніным-Марцінкевічам (працу спыніў у 1850-я гг.).

**22 траўня** — 95 гадоў з дня нараджэння М.У.Каспяровіча (1900—1937), беларускага краязнаўца, лексікографа, мастацтвазнаўца, літаратуразнаўца.

**23 траўня** — 85 гадоў назад (1910) у Пецярбургу Я.Купала закончыў паэму «Курган».

**24 траўня** — Дзень славянскага пісьменства і культуры.

**27 траўня** — 95 гадоў з дня нараджэння У.А.Жылкі (1900—1933), беларускага паэта.

**28 траўня** — 90 гадоў назад (1905) Янка Купала ўпершыню выступіў у друку — верш «Мужык» у менскай газеце «Северо-Западный край».

**31 траўня** — 70 гадоў назад (травень 1925) была створана Аршанская філія літаратурнага аб'яднання «Маладняк» (працавала да лістапада 1928г.).

*Актуальна!*

# Псіхалогія на службе выбаршчыка

У краінах з развітым народаўладдзем (дэмакратыяй) вельмі вялікая ўвага надаецца вывучэнню асобы кандыдата, які прэтэндуе на дзяржаўную пасаду. Гэта адносіцца не толькі да будучых дэпутатаў у парламент, а на любую кіруючую пасаду. Кандыдата з дапамогай прэсы хіба што не прасвечваюць на рэнтгене, а ў астатнім пра яго даведваюцца ўсё: пра справы ў сям'і, у прафесійнай дзейнасці, вывучаюць прывычкі, слабасці, а таксама абавязкова — не толькі стан яго здароўя ды характар, але і псіхіку. Як сведчыць практыка, гэта ўсё аказваецца потым зусім не лішнім, бо ад чыноўнікаў урэшце вельмі залежыць лёс і кожнага грамадзяніна, і лёс, дабрабыт і нават спакойнае існаванне самой краіны.

Вось і нам у хуткім часе трэба ісці на выбарчыя ўчасткі. А паколькі нашыя партыі практычна былі амаль адхілены ад падбору кандыдатаў, паколькі нам зноў жа прыйдзецца галасаваць не за партыйныя праграмы, а проста за «добрых хлопцаў», то ёсць вялікая небяспека, што сённяшнія «свае ў доску», якія не саромеюцца многа абяцаць, хто размаўляе на «пралетарскай» мове і запэўнівае, што ведае, колькі і на што трэба даць у адны рукі талонаў, каб запанаваў камунізм, — яны і пройдуць.

Зыходзячы з заходнееўрапейскага вопыту, а таксама карыстаючыся напрацоўкамі такога выдатнага чалавека, як вялікі рускі пісьменнік А.П.Чэхаў, які быў яшчэ і добрым урачом, паспрабуем вельмі сцісла разгледзець толькі адзін аспект ацэнкі кандыдата — псіхалагічны.

Нават без спецыяльных псіхалагічных тэстаў, па тым, як чалавек ходзіць, размаўляе, як сядзіць у крэсле, па непрыкметных рысах твару, па тым, як ён апранаецца, і г.д., можна даволі дакладна ўстанавіць яго тэмперамент і прадказаць характар. Можна вылепіць адмысловы чалавечы характар, але тым не менш у першааснове ён будзе ўсё ж вызначацца тым, што закладзена ў ім ад прыроды-маці. А калі ды яшчэ чалавек атрымаў (ці не атрымаў) адпаведнае выхаванне ў дзяцінстве! Увогуле вядома, што чалавечы характар фарміруецца да пяцісямігадовага ўзросту, а далей адбываецца ўжо ці замацаванне адпаведных паводзін, ці цяжкі, складаны, нават балючы працэс перавучвання. А як перавучыцца, скажам, 40-гадоваму моцнаму мужчыну, які ў дзяцінстве, магчыма, пакутаваў ад знявагі, а потым, набраўшы сілу, проста ці не лічыўся з думкамі іншых, калі яны не супадалі з ягонымі, ці нават агрэсіўна зневажаў іх носьбітаў, а то і прымяняў супраць апанентаў кулакі? Уявім сабе, што такога чалавека выбаршчыкі надзяляюць вялікай дзяржаўнай уладай. Як можна потым спыніць яго, каб ён не нарабіў шкоды, у тым ліку і сабе?

Вучоныя-псіхолагі вызначылі, што падмуркам для фарміравання характару, калі не ўлічваць яшчэ і пэўныя бытавыя ўмовы, з'яўляецца тэмперамент. Уздзеянне яго на характар такое вялізнае, што навукоўцы выдзелілі яго ў асобную катэгорыю, вызначыўшы чатыры асноўныя тыпы. Тут можна скарыстаць іх апісанне, якое даў некалі А.П.Чэхаў: «Халерык тварам жоўта-шэры. Вочы варочаюцца ў арбітах, як галодныя ваўкі. Раздражняльны, глыбока ўпэўнены, што зімой «чорт ведае як холадна», а ўлетку «чорт ведае як горача». Жартаў не разумее. Як муж і таварыш — немагчымы, як падначалены — малаверагодны, як начальнік — невыносны і вельмі непажаданы».

Халерыкі, адзначаюць псіхолагі, вызначаюцца схільнасцю да змены настрою, раздражняльнасцю, упартасцю, рэзкасцю і прамалінейнасцю ў адносінах з людзьмі, валодаюць хуткай, запальваючай, са зменнымі інтанацыямі мовай, неўраўнаважаныя, нецярпімыя да чужых недахопаў, авантурыстычныя, рызыкоўныя. Халерыкамі былі Напалеон, Марат, Пётр I, Сувораў, Ленін, Гітлер. Халерыкі ў крытычныя моманты праяўляюць у супастаўленні з іншымі тэмпераментамі вельмі важныя якасці — здольнасць да магутнага рыўка энергіі, працаздольнасць, рашучасць.

Але гэты тэмперамент не без недахопаў. У халерыкаў магчымыя і вельмі частыя нервовыя зрывы. Многія вялікія прадстаўнікі гэтага тэмпераменту хварэлі на эпілепсію. Сярод палітыкаў сустракаюцца найбольш часта.

Цытуем далей: «Сангвінік: пастаянны ў сваім непастаянстве... Усе ўражанні на яго дзейнічаюць лёгка і хутка: адсюль адбываецца легкадумства. Ці зусім нічога не чытае, ці чытае запоем. Жэніцца выпадкова».

Сангвінікі, адзначаюць псіхолагі, заўсёды вясёлыя, жыццярадасныя, часта не даводзяць справы да канца, схільныя пераацэньваць сябе; лёгка пераносяць непрыемнасці, лаўрахоўныя, лёгка прыстасоўваюцца да змены ўмоў.

Тэмперамент флегматыка А.П.Чэхаў характарызуе так: «Знешнасць самая невызначальная. Заўсёды сур'ёзны, таму што лянуецца смяяцца. Нязменны член усемагчымых камісій, сходаў і г.д., на якіх дрэмле, не звяртаючы ўвагі ні на кога. Самы зручны для жаніцьбы чалавек, на ўсё згодзен. На службе — шчаслівы».

Флегматыкі заўсёды спакойныя і стрыманыя, паслядоўныя і надзейныя, асцярожныя, умеюць чакаць, маўклівыя, мова спакойная, без эмоцый, ураўнаважаныя, справу заўсёды даводзяць да канца, строга прытрымліваюцца рэжыму працы, малаўспрымальныя да адабрэння і асуджэння. Дарвін, безумоўна, быў флегматыкам — шырока вядомыя яго памяркоўнасць, метадычнасць, настойлівасць у працы.

Аб меланхоліках Чэхаў гаворыць так: «Вочы шэра-блакітныя, падрыхтаваныя да таго, каб напоўніцца слязьмі. Схільныя да іпахондрыі. З жалем у голасе паведамляюць сваім родным, што лекі ўжо не дапамагаюць... Завяшчанне ў яго ўжо даўно падрыхтаванае.

Меланхолік да новых абставін прызвычайваецца з цяжкасцю; не верыць у свае сілы; лёгка пераносіць адзіноту; схільны да замыкання ў сабе; хутка стамляецца; уражлівы да слёз; вельмі адчувальны да адабрэння і асуджэння, імкнецца выклікаць у акружаючых спачуванне; схільны да падазронасці, надумлівы».

Але ў прыродзе людзі толькі халерыкі ці толькі меланхолікі ў «чыстым» выглядзе не існуюць. У кожным чалавеку закладзена хоць крышку ад усіх тэмпераментаў, але адзін ці адразу два выдзяляюцца з гэтай «сумесі».

Ні дрэннага, ні добрага тэмпераменту не бывае, бываюць дрэнныя характары, а гэта ўжо залежыць, як мы казалі, ад выхавання. За гэта прырода ўжо не адказвае. Але чалавеку-палітыку і народу, які ён прадстаўляе, вельмі важна ведаць аб тым, што ў палітыку закладзена ад прыроды і што ён можа «выкінуць» пры збегу абставін. Самай непажаданай «сумессю» тэмпераментаў для палітыка і наогул начальніка: дырэктара школы, кіраўніка любога калектыву, з'яўляецца спалучэнне халерычнага з меланхалічным. Гэтыя палітыкі і начальнікі вельмі падазроныя, надумлівыя і помслівыя. Мне хацелася б ахарактарызаваць і паказаць менавіта гэты тып.

Палітыкі з прымессю меланхоліі даволі закамплексаваныя людзі. Яны ведаюць свае недахопы і вельмі блізка бяруць іх да сэрца. Калі такі палітык прыязджае ў больш адукаваную, чым сам, аўдыторыю і ведае аб гэтым, то ён становіцца вельмі агрэсіўным і непрадказальным. Любая ўсмешка, любы нядобразычлівы позірк можа выклікаць яго абурэнне. Заўважыўшы нешта падобнае, такі палітык можа сказаць больш сталаму і адукаванаму чалавеку, напрыклад, такое: «Калі ў цябе больш густыя бровы, чым у мяне, дык думаеш, што табе ўсё дазволена?» ці нешта ў гэтым родзе. Далей, ён ужо адыходзіць ад плана размовы, ад напісанага для яго спецыялістамі даклада, пачынае губляцца ў тэрміналогіі і пачынае кідаць люмпенскія рэплікі ў аўдыторыю, выклікаючы справядлівае абурэнне ў адукаваных і культурных людзей і адабрэнне ў маргіналаў і люмпенаў. Прыкладна так ці блізка да гэтага. Такія палітыкі вельмі не любяць, калі пра іх дрэнна гавораць у прэсе. Яны не прамінуць ніводнага нядобразычлівага слова ў свой бок і, будучы яшчэ і халерыкамі, абавязкова жорстка адпомсцяць.

Выступаючы перад народнай аўдыторыяй, ён абавязкова зробіць выгляд стомленага чалавека, які, не шкадуючы здароўя і часу, толькі і дбае аб народным дабрабыце.

*(Працяг на с.4.)*

Актуальна!

# Псіхалогія на службе выбаршчыка

(Працяг. Пачатак на с.3.)

Хутчэй за ўсё гэта так і ёсць, але гэты палітык абавязкова пакажа, як яму цяжка, нават гучна пастогне, каб людзі яго пашкадавалі. Дарэчы, заўсёды ён зробіць так, што «крайнімі» ў цяжкасцях застануцца чыноўнікі-выканаўцы, «стрэлачнікі».

Вельмі небяспечна, калі палітык з «сумессю» халерычнага і меланхалічнага тэмпераменту не мае неабходнай адукацыі і практычных навыкаў для кіравання. Ведаючы аб гэтым, ён пачынае законы эканамічнага жыцця падмяняць загадам зверху. А дзе загад у эканоміцы — там адміністрацыйна-камандная сістэма кіравання і згортвання дэмакратыі. Вось тут ён ужо аказваецца як раз тым чалавекам, які і патрэбны для такой сістэмы, а ў выніку разбурыць нават і яе.

Кіраўнікі-халерыкі звычайна імкнуцца сабраць вакол сябе добрых спецыялістаў. Але ж выбіраюць такіх, якія не здольныя прымаць самастойных рашэнняў, і тых, хто дазваляе ўмешвацца ў іх прафесійныя справы. А ўмешвацца начальнікі-халерыкі вельмі любяць. Яны лічаць сябе спецыялістамі ў любой сферы дзейнасці і ведаў. Таму добры спецыяліст, які ведае сабе цану, не пойдзе працаваць да такога кіраўніка, не захоча стаць заложнікам авантурыстычнай палітыкі. Таму вакол і збіраюцца такія ж уладалюбы, як ён сам. Адсюль палітычныя інтрыгі, барацьба за ўладу ўнутры адной каманды. Гэта вельмі небяспечна для краіны.

Халерыкі і ўладалюбы. Яны не спыняюцца ні перад якой крайняй мерай, каб зберагчы сваю ўладу. Іх не спыніць небяспека грамадзянскай вайны, тэрору супраць палітычных праціўнікаў. Ён становіцца асабліва небяспечным таму, што дэмакратычным шляхам не можа адмовіцца ад улады. Для гэтых людзей улада — гэта ўсё, улада — гэта іх жыццё. Гэта тычыцца не толькі палітыкаў вышэйшага рангу, але і любога халерыка-начальніка. Такі палітык-начальнік прэтэндуе на ранг не менш, чым «бацькі» народа, завода, аддзела. Уявіце становішча «бацькі», калі ад яго адварочваюцца «дзеці». Палітык-сангвінік ці флегматык не зробіць з гэтага трагедыі, халерык жа разлуцца на ўсіх і на ўсё. І калі народ стварае моцную ўладу ў дзяржаве, то павінен паклапаціцца аб тым, каб да гэтай улады не трапіў тыранічны палітык і каб у краіне працавала хаця б супрацьвага яму — моцны парламент, канстытуцыйны суд, дэмакратычная прэса. Калі гэтага не будзе — бяда. Але гарантам дэмакратыі з'яўляемся і мы — выбаршчыкі, пры ўмове, што мы палітычна абачлівыя.

Прыходзіцца канстатаваць, што, на жаль, нашаму грамадству яшчэ цяжка выбіраць на кіруючыя пасты ў краіне сапраўды адукаваных і культурных палітыкаў, спакойных і разважлівых, нацыянальна свядомых. Краінай жа не могуць кіраваць на карысць нацыянальных інтарэсаў людзі, якія не ведаюць сваіх каранёў, якія кажуць, што не ведаюць, хто яны: рускія, беларусы, украінцы ці палякі, таму што нарадзіліся на якой-небудзь мяжы. Павінны прыйсці пасля выбараў людзі — патрыёты ў першую чаргу. Тыя людзі, якія ведаюць, што трэба менавіта Беларусі, і якія будуць цаніць сябе і свой народ, сваю свабоду і незалежнасць і свабоду і незалежнасць свайго народа; шанаваць сваю і народную гісторыю і мову, а не казаць, што яна такая і сякая.

Трэба зрабіць усё магчымае, каб у нас зразумелі, што не бывае «народных» цароў, прэзідэнтаў, чыноўнікаў. Ёсць добрыя ці дрэнныя спецыялісты. Ужо пара ўсвядоміць, што «кухарка» не можа кіраваць краінай. Для гэтага трэба мець патрэбную адукацыю (чалавек адукаваны і разумны не адно і тое ж — таксама трэба разумець) і практычныя навыкі кіравання дзяржавай. Таму тут крытэрыем выбару можа быць толькі адно — прафесіяналізм, а не сацыяльны слой ці «барацьбіт за абражаных і пакрыўджаных». Затое іншая дзяржаўная пасада — народны трыбун, якая нарадзілася ў старажытнасці, для таго і прызначалася, каб абараніць народ ад дзяржавы, якую прадстаўляюць цары, прэзідэнты, чыноўнікі. Народным можа быць толькі дэпутат. Мы ўжо атрымалі ўрок па паліталогіі на тэму: «Што такое папулізм і палітычны імідж». Але вельмі ўжо марудна вучымся. Так можа не хапіць жыцця не аднаго пакалення беларускага народа. Хутка выбары. Вельмі мала часу. Ад нас залежыць тое, хто прыйдзе ў Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь. Ад нас залежыць тое, як хутка наша Радзіма перастане быць пасмешышчам для ўсяго свету.

**Ю.КЛІНЦОЎ,**
**настаўнік.**
г.Гомель.

Загадкі нацыянальнага

Ад таго, якім шляхам пойдзе грамадская палітыка, развіццё Расіі, будзе ў многім залежаць становішча яе суседзяў. Дык чым заклапочаны расійскія філосафы, сацыёлагі і этолагі?

Нягледзячы на ўсе хваляванні, страту тэрыторый, разруху і войны, мы больш занепакоены сваім мінулым і будучым, чым цяперашнім. Рэвалюцыя — ліхадзейства альбо непазбежнасць? Альбо непазбежнае ліхадзейства? Вырастала яно з расійскай традыцыі альбо было невязана звонку? Ці трэба зносіць помнікі правадырам і адначасова гістарычныя назвы? Альбо сорамна гэтак абыходзіцца са сваёй гісторыяй, якую мы зноў захацелі перапісаць?

Праз рэвалюцыі прайшлі вельмі многія народы. Шторазу гэта былі падобныя фазы разбурэння. І ў кожнай наступнай фазе вынішчалі дзеячаў папярэдняй. Усе рэвалюцыі аказваліся крывавымі. Французская праліла крыві не меней за расійскую. З пагазонам, жывым агароджам, верасовым пусткам і Каралеўскаму Дубу. Ёсць месца англійскаму снеданню і нават каралю Артуру за Круглым Сталом. Няма месца рэвалюцыйнаму бязладдзю. Бо бязладдзе — гэта тое, што не мае ладу. На гэтым шляху Англія стала «майстэрняй свету» і «ўладаркай мораў». Хай не самай багатай, але самай добраўпарадкаванай краінай.

Што з'явілася прычынай такой перамогі? Ці толькі вернасць брытанскай традыцыі, геній брытанскай эліты і давер да яе нацыі? Калі этналагічная тэорыя нашага вялікага сучасніка Льва Мікалаевіча Гумілёва дакладная, англічане прайшлі рэвалюцыю ў фазе этнічнага ці пасіянарнага надлому. На гэтым этапе працэнт

## Уладзімір МАХНАЧ (Масква)

# Непрыняцце рэвалюцый

праўкай, вядома, на колькасць насельніцтва ў кожнай дадзенай краіне і ў дадзеную эпоху. А вось выходзілі з рэвалюцый па-рознаму. І гэтак жа неаднолькава ацэньвалі здарэнне. Французы мелі неасцярожнасць сваю рэвалюцыю гераізаваць. Захавалі рэвалюцыйныя колеры нацыянальнага сцяга. Дужа людаедскую песеньку зрабілі дзяржаўным гімнам. Нават адзначалася неадпаведнасць тэксту французскага гімна ідэалам ААН. З пакалення ў пакаленне лепшыя мастакі пэндзля і слова, сцэны і кінаэкрана пераўтваралі рэвалюцыйную спадчыну ў частку нацыянальнага стэрэатыпа паводзінаў француза. Народ у гэта паверыў і... паплаціўся. Французы трэсла паўтара стагоддзя ў трох рэвалюцыях, дзвюх імперыях, дзвюх рэстаўраваных манархіях, пяці рэспубліках. Французская цярпела паражэнні ў абедзвюх сусветных войнах, у якіх, праўда, за яе перамаглі іншыя. І толькі намаганнямі вялікага француза Шарля дэ Голя здабыла на нашых вачах стабільнасць.

Англічане прайшлі праз сваё цараза-бойства, сваю грамадзянскую вайну, сваю дыктатуру, сваю рэстаўрацыю. У іх, у адрозненне ад французаў ці амерыканцаў, не было перад вачыма прыдатнага чужога вопыту. Але яны праявілі досыць здаровага сэнсу і не прынялі рэвалюцыі. Больш таго, зрабілі рэвалюцыйную тэму *непрыстойнай.* Аб гэтым за сталом не гавораць, а значыць, не гавораць у парламенце або ў палітычным клубе. Ці пакаяліся англічане? Пакаянне па-грэцку — «метанойа». Не біцца сябе кулаком у грудзі з лямантам аб уласнай брыдоце, што некаторыя хочуць навязаць расійцам, а *перабудова розуму.* Англічане гэтак і паступілі. «Добрая старая Англія» — краіна традыцый. У гэтай традыцыі ёсць месца віктарыянскай прыстойнасці, елізаветаўскаму ваяўнічаму нацыяналізму, пасіянарыяў, у якіх служэнне ідэі пераважае над стэрэатыпам самазахавання, падае. Такім чынам, расце ўплыў кожнага пасіянарыя на навакольных. Яны пачынаюць цягнуць этнас у розныя бакі. Рэзка скарачаецца ўнутрыэтнічная салідарнасць. Сітуацыя, у вышэйшай ступені, адпаведная бязладдзю. З выхадам з надлому ў фазу інерцыі этнас, усвядоміўшы страту былой энергіі, імкнецца да ідэалаў памяркоўнасці. Пасіянарыяў любяць і берагуць як нацыянальны здабытак, але на першыя ролі ў дзяржаве не пускаюць.

Расіі пашэнціла. Расійскі этнас, што нарадзіўся ў XIII стагоддзі, на чатырыста год маладзейшы. Наша бязладдзе прыпадае на фазу надлому, што пачалася каля двухсот год назад у часы дзекабрыстаў. Таму наўрад ці варта верыць тым, хто палохае разбурэннем генафонду ў дзікіх крывапусках савецкага часу. За выйсце з надлому дорага плацяць усе народы. Нават без усялякіх рэвалюцый. Для немцаў гэта абышлося Трыццацігадовай вайной пачатку XVII стагоддзя, што забрала жыцці дзвюх трацін тагачаснага насельніцтва. Тых, хто застаўся, хапіла на нямецкі рамантызм, нямецкую класічную філасофію, лепшую музычную школу Захаду і цяперашнюю Германію, якая квітнее.

*А калі гэтая тэорыя недакладная і мы не перажылі рэвалюцыю «своечасово»? Тады тым больш важна прыглядвацца да культурнай спадчыны і вопыту тых, хто спрыяльна пазбавіўся ад вынікаў разбурэння. Самага высакароднага рэвалюцыянера лічаць злыднем, самага таленавітага спевака рэвалюцыі гнаць з грамадства як чалавека ў вышэйшай ступені непрыстойнага. Але без злобы й нянавісці — яны раз'ядноўваюць.*

**«Литературная газета».**

# «Голас часу»,

## сакавік—красавік 1995

Нумар часопіса (№35/2) адкрываецца невялічкай нататкай А.Якавіцкага, консула Пасольства Рэспублікі Беларусь у Лондане, пра візіт у Вялікабрытанію ў снежні мінулага года дэлегацыі на чале са Старшынёй Вярхоўнага Савета РБ Мечыславам Грыбам. Разам з ім наведаў гэтую краіну вядомы беларускі пісьменнік, дэпутат Вярхоўнага Савета РБ Ніл Гілевіч. На працягу некалькіх дзён праводзіліся сустрэчы з афіцыйнымі асобамі Вялікабрытаніі.

Чытачам прапанаваны шэраг публікацый на розныя тэмы. Сярод іх артыкулы М.Бублікава «Хто кіруе Беларуссю! Прэзідэнт ці палітрук?» і А.Баханчыка «Ворагі беларушчыны» пра святкаванне 3 ліпеня 1994 г. 50-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецкай акупацыі ў Менску, Ю.Весялкоўскага «Мысьленц о ойчызьне» і А.Баркоўскага «Мелхіёр і Богдан Чыжык». Да 110-х угодкаў смерці архіепіскапа Мяфодзія змешчаны матэрыял Ю.Весялкоўскага «Архіепіскап Мяфодзій і ягоная дзейнасць».

У часопісе чытачы знойдуць таксама працяг публікацый на гістарычную тэму: Ю.Весялкоўскага «Прычына хатніх і міжнародных войнаў (для прыкладу — Югаславія)», Ю.Свяржынскага «Галасы аб «Вялікай Айчыннай вайне» і ўдзел у ёй савецкіх і польскіх партызан». Цікавая інфармацыя падаецца ў нататцы старшага навуковага супрацоўніка Інстытута гісторыі АН Беларусі Г.Галенчанкі «Супрасль — цэнтр кніжнай пісьменнасці». У нумары надрукаваны артыкулы: «Рух нянавісці і хлусні», «Хто вінаваты», «Беластоцкі лагер — «даліна смерці», вершы Надзі Дземідовіч, а таксама вытрымкі з лістоў у рэдакцыю «Голаса часу». Пад рубрыкай «З прэсы без каментарыяў» змешчаны выпіскі з беларускага перыядычнага друку, у прыватнасці газет «Свабода», «ЛіМ», «Народная газета», «Звязда», «Мінская праўда», «Шлях», «Голас Радзімы», часопіса «Адукацыя і выхаванне».

**Л.Б.**

*Да 200-годдзя з дня нараджэння Яна ЧАЧОТА*

# Створаны аргкамітэт

28 сакавіка ў Доме літаратара быў паказаны дакументальны фільм «Вечны выгнаннік» пра Яна Чачота. Выступалі аўтар сцэнарыя Кастусь Цвірка, рэжысёр Вадзім Сукманаў, рэдактар Уладзімір Мароз, а таксама вядомыя паэты, літаратуразнаўцы, даследнікі фальклору. Пераважала адно меркаванне — фільм «Вечны выгнаннік», як і кніга Кастуся Цвіркі «Навагрудскі замак», — толькі пачатак роспавяду пра Яна Чачота. А быў ён геніяльным паэтам, першым народным паэтам, сябрам і апекуном філаматаў і філарэтаў, асабліва Адама Міцкевіча, самым вялікім фалькларыстам першай палавіны XIX стагоддзя.

Прагляд і абмеркаванне фільма сталася нагодай не толькі дзеля згадкі пра ўжо блізкія 200-я ўгодкі Яна Чачота. Быў агалошаны склад Аргкамітэта да святкавання 200-годдзя з дня нараджэння Яна Чачота.

**З.С.**

*Замежжа*

# Прынц Чарльз абураны «трасянкай». Амерыканскай

Як перадае англійскае тэлеграфнае агенцтва Рэйтэр, нашчадак англійскага прастола прынц Чарльз публічна абурыўся тым, як амерыканцы нявечаць высакародную англійскую мову.

Каралеўскі сын, вядомы як рашучы прыхільнік нацыянальных традыцый і ўстаноў, заявіў на сустрэчы, арганізаванай Брытанскай радай, што амерыканскі варыянт англійскай мовы «вельмі разбэшчвае». Дадаўшы: «Англійская мова — а я разумею гэта як брытанская англійская — павінна захаваць свае пазіцыі ў якасці мовы сусветных адносін і ў наступным стагоддзі». Тым часам амерыканцы размаўляюць па-англійску гэтак, як лічаць зручным для сябе. Нездарма пачынаюць меркаваць, што справа ўжо ідзе пра самастойную амерыканскую мову на англійскім субстраце. Усё мяняецца?

КЛУБ АБІТУРЫЕНТАЎ

# Максім Багдановіч

*(Дыктоўка)*

Бадай, нікому з беларускіх паэтаў не выпаў такі незайздросны лёс, як Максіму Багдановічу. З маленства ён хварэе на сухоты. Не паспеўшы ўволю нацешыцца шчаслівым дзяцінствам, страчвае маці, а ўслед за ёй — і мілыя родныя мясціны, па якіх гадамі будзе сумаваць далёка на Волзе. І не толькі сумаваць, але і сэрцам ірвацца да свайго краю, да мілагучнай матчынай мовы, без якой яму не мысліцца далейшае жыццё.

Не лепшым чынам здзейсняцца і яго мары. Ён, хто ўсёй душой імкнуўся стаць літаратарам або вучоным, змушаны будзе вучыцца на юрыста, каб потым ні дня не працаваць па гэтай спецыяльнасці. Ніколі не загоіцца і яго боль па радзіме. Ён, хто лічыў, што толькі Беларусь і здолее вылечыць яго, памірае на чужыне. Нават смерць і тая не дала яму вечнага прытулку ў роднай зямлі. Крыўдай сціскаецца сэрца, калі згадваеш пра ўсе гэтыя нягоды. І можа трагічнасць лёсу і выклікае да яго асобы пабольшаную цікавасць. Бо і сапраўды — такое мала каму даставалася. Адзін з крытыкаў назваў яго творчае жыццё загадкай. Так, так, загадкай... І ў гэтым няма нічога дзіўнага.

**Падрыхтаваў Іван КАЗЛОЎСКІ.**

# Ці ж нам Статут не ўзор?

ПРАКТЫЧНАЯ СТЫЛІСТЫКА

У мінулым нумары нашай газеты быў пададзены ўзор пісьмовай мовы XIV стагоддзя. Тым, каму не ўдалося цалкам прачытаць гэты тэкст, напісаны «старэйшым» беларускім паўуставам, — прапануем яго ў сучасным напісанні.

«Слова Тактамышава ко каралеві польскаму. Ведама даем нашаму брат. Аже есме сел на столе вялікага царства. Калі есме первое сел на царском столе, тогда есме послал был к Вам Асана і Катлубугу Вам даці веданіе. І нашы паслы нашлі Вас пад горадам пад Трокі стоячы. Вы пак паслалі есте к нам пасла Вашага літвіна на імя Некаіста. Оудругом пак леце стала межы нас замятня. Наш племеннік Бекбулат і Хожа Медзін оучынілся нам ворог. І оусталі на нас. І ешчэ к тым Бекгіч і Турдучак, Берды Давыд ты князь головный — мае былі слугі. І тыя сталі нам ворагo. І оу мене служаче. І пачалі коромоліці на мене. Посламіся оудного на імя Ідзікгія да аксака Цеміра на мене ліха мысляче. По тых пасланію, па Ідзікгіеву пасольству, вышол на мене аксак Цемір Жалезная Нага от чорного песка. Тогда аксак прышол так тайно на нас, аже не было нам нікакое весці а ні слова. Аліж оузрелі есмо его оу нашай дзержаве, мы пак не поспелі есмо й спрятаці всея силы нашее, толко што ўкола нас наш двор есць і с тымі сталі есмо проціў таго аксака. Той існый Бекбулат, наш вораг, нас выдал й побегл от нас...»

Перад вамі — узор дыпламатычнага ліста ўладара Залатой Арды хана Тахтамыша, таго самага, што ў 1382 годзе спаліў Маскву.

Перш чым гаварыць пра стылістыку гэтага помніка, раім падумаць і адказаць на пытанні:

1) Чаму ў XIV стагоддзі тагачасную беларускую мову выкарыстоўвалі дзеля дыпламатычных дачыненняў іншыя дзяржавы, прыкладам, Польскае каралеўства і Залатая Арда.

Прапануем такія варыянты адказу:

а) Беларуская мова таго часу была мовай дыпламатычнай перапіскі паміж краінамі Усходняй Еўропы (аж да XVI ст.).

б) Ягайлавай роднай мовай была беларуская мова, і каб падладзіцца да яго, Тахтамыш напісаў яму ліст на ягонай роднай мове.

в) Мовамі еўрапейскай дыпламатыі ў XIV стагоддзі былі лацінская і беларуская мовы. Адной з іх і карыстаўся Тахтамыш.

2) Чаму такой функцыі не магла выконваць царкоўнаславянская мова? (Вядома, што Ягайлава маці, княгіня Ульяна, была праваслаўнай, пэўна ж, ведала мову багаслужэнняў і магла навучыць сына.)

3) Чаму Тахтамыш пісаў ліст польскаму каралю на беларускай мове?

Прапануем два варыянты адказу, якія, верагодна, адзін другога не выключаюць:

а) Ягайла не ведаў польскай мовы.

б) Дзяржаўнай мовай Польскага каралеўства была тады лацінская мова.

4) Якой магла быць мова канцыляры Вялікага Княства Літоўскага, калі яе выкарыстоўвалі іншыя дзяржавы?

Гэтыя пытанні і варыянты адказаў пададзены не дзеля гульні ў загадкі і адгадкі. Мяркуем, што гэта дапаможа вам уявіць сапраўдны стан нашай мовы — дзяржаўнай мовы Вялікага Княства.

Нас жа цікавяць стылёвыя асаблівасці «Слова Тактамышава».

**Пётра ПАШКАВЕЦ.**

*(Працяг будзе.)*

**Каментары Уладзіміра СВЯЖЫНСКАГА:**

1. Для стылю «Слова» характэрны звычайныя ў такім жанры складаныя звароты тыпу даці веданіе, учынілся наш ворог.
2. Адзначаны звычайныя ў мове небеларуса гіпернармалізмы, напрыклад, поўнагалосная форма, дзе яе не павінна быць:-коромоліці.
3. Прыкметны ўплыў рускай мовы, якую аўтар, відаць, ведаў лепш: узрелі, спрятаці.
4. Прыкметна адлюстраваліся рысы новага беларускага вымаўлення. Оу другом, оусталі, укола.
5. Захоўваюцца ўсе формы спражэння дзеяслова-звязкі перфектных формаў: есме сел, есме послал, оузрели есмо.

АКТУАЛЬНА

# Лінгвауніверсітэт: замест тэстаў абітурыенты будуць здаваць вусны экзамен па беларускай мове

***Гутарка з прарэктарам па навучальнай рабоце Менскага лінгвістычнага універсітэта Н.П.Баранавай***

**— Наталля Пятроўна, вядома, што ў Вашай навучальнай установе рыхтуюцца кадры не толькі па спецыяльнасці дзве замежныя мовы, але і па спецыяльнасці замежная мова плюс беларуская мова і літаратура. Як даўно гэта практыкуецца?**

— Падрыхтоўку спецыялістаў такога профілю мы пачалі пяць гадоў назад і ў гэтым годзе будзем мець ужо першых выпускнікоў.

**— Існуе такое аддзяленне асобна ці па нейкаму іншаму прынцыпу дзеляць групы студэнтаў на спецыяльнасці?**

— На чатырох факультэтах ёсць два аддзяленні: дзвюх замежных моў, а таксама замежнай мовы плюс беларускай мовы і літаратуры. У час уступных іспытаў кожны абітурыент вырашае сам для сябе, якую спецыяльнасць выбраць.

**— Ведаю, што ў мінулыя гады ўзровень ведаў абітурыентаў па беларускай мове вызначаўся пры дапамозе тэстаў. У гэтым годзе яны адменены. Чым гэта выклікана? І што будзе ўзамен?**

— Найперш нашым жаданнем зрабіць найбольш якасны набор студэнтаў. Мы проста памянялі форму іспыта. Замест тэстаў абітурыенты будуць здаваць вусны экзамен па беларускай мове. Было так, што нават у групах, дзе ў якасці другой спецыяльнасці набывалася спецыяльнасць беларуская мова і літаратура, студэнты дрэнна валодалі вуснай беларускай мовай. Прычыну бачым у тым, што не чуем іх, як яны размаўляюць па-беларуску на ўступных іспытах. Неабходна менавіта сустрэча з абітурыентам, каб можна было звярнуць увагу на яго дыкцыю, фанетыку, а таксама высветліць узровень валодання сучаснай беларускай мовай. Тэст — гэта вельмі цікавая форма ўступнага іспыта, але ён па свайму зместу шмат у чым дубліруе дыктоўку. Па сутнасці адбываецца тая ж праверка ведаў па марфалогіі, сінтаксісу, што і ў час дыктоўкі. Вусны экзамен дасць магчымасць праверыць тыя ж самыя веды, але адначасова пачуць, як гавораць абітурыенты па-беларуску.

**— Будуць прымяняцца ў час іспытаў традыцыйныя білеты?**

— Так. Ёсць пэўныя патрабаванні па беларускай мове на ўступных іспытах у лінгвістычны універсітэт для абітурыентаў. Яны зацверджаны Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь. На аснове гэтых патрабаванняў кафедрай беларускай мовы і літаратуры распрацоўваюцца білеты. З іх узорам мы пазнаёмім нашых абітурыентаў.

**— Наталля Пятроўна, а які конкурс пры паступленні ў лінгвістычны універсітэт? Ён аднолькавы на ўсе спецыяльнасці ці неяк розніцца?**

— Напачатку конкурс быў адзіны для ўсіх. Але ў працэсе навучання выявілася, што ўсё ж падрыхтоўка спецыялістаў па беларускай мове і літаратуры патрабуе іншага падыходу да ведання роднай мовы абітурыентамі. Таму зрабілі асобныя конкурсы для абітурыентаў аддзялення дзвюх замежных моў і аддзялення замежнай мовы плюс беларускай мовы і літаратуры. Бывае так, што конкурс на апошняе аддзяленне трошачку ніжэйшы. Гэта тлумачыцца тым, што ў лінгвістычны інстытут студэнты ідуць перш за ўсё для таго, каб вывучыць як мага болей замежных моў. А мы ж са свайго боку зацікаўлены ў тым, каб падрыхтаваць якасных спецыялістаў, якія б маглі добра перакладаць з замежнай мовы на беларускую і наадварот. Гэта не так проста. Разам з тым мы хочам даць граматных выкладчыкаў замежнай мовы ў школы, якія б дасканала валодалі літаратурным варыянтам беларускай мовы. На аддзяленні па спецыяльнасці замежная мова і беларуская мова і літаратура студэнты атрымліваюць падрыхтоўку па беларускай мове і літаратуры ў такім жа аб'ёме, як па другой замежнай мове на аддзяленні дзвюх замежных моў. Мы вельмі беражліва ставімся да гэтага аддзялення і таму даём магчымасць яго студэнтам авалодаць і другой замежнай мовай, але не на ўзроўні дыплома. Не хапае часу вывучыць тры замежныя мовы ў рамках вучэбнага плана. Але амаль кожны пяты студэнт зараз імкнецца вывучыць трэцюю замежную мову і атрымаць сертыфікат. Гэта платныя вячэрнія курсы. Але плата там чыста сімвалічная.

**— У якім аб'ёме выкладаецца беларуская мова на аддзяленнях дзвюх замежных моў?**

— Руская мова як вучэбная дысцыпліна ў нас не выкладаецца. Мы ўвялі толькі 36—40 гадзін рускай мовы з мэтай пераходу да тэорыі лінгвістыкі. Беларуская ж мова вывучаецца цэлы год на першым курсе. Усе студэнты незалежна ад таго, скончылі яны сярэднюю школу ў Беларусі ці па-за яе межамі, у нас вывучаюць беларускую мову. Гэта карэкціруючы курс. Выкладчыкі кафедры беларускай мовы і літаратуры імкнуцца працаваць са студэнтамі так, каб ліквідаваць усе недапрацоўкі школы. Кафедру ўзначальвае кандыдат філалагічных навук, дацэнт Ала Станіславаўна Сакалоўская. Там працуюць як вопытныя спецыялісты, так і пачынаючыя выкладчыкі. Калектыў вельмі дружны, працаздольны. Ён пастаянна ў пошуку. У пошуку новых форм і метадаў правядзення заняткаў са студэнтамі, а таксама сродкаў, з дапамогай якіх можна прывіць любоў да сваёй Бацькаўшчыны, да яе мовы, гісторыі, культуры. І гэта у іх добра атрымліваецца. На першым курсе ў нас чытаецца «Беларусазнаўства», дзе студэнты знаёмяцца з гісторыяй, культурай, традыцыямі Беларусі. На другім курсе студэнтам чытаюцца лекцыі па беларускай літаратуры. Увогуле мы выкарыстоўваем любую магчымасць, каб увесці нешта беларускае, нацыянальнае. Прычым, робім гэта без прымусу, а з жаданнем і гатоўнасцю. Як мы зрабілі, напрыклад, са спецкурсам «Культура Беларусі».

**— Дзякую, Наталля Пятроўна, што знайшлі час для сустрэчы і за цікавыя паведамленні. Поспехаў Вам у працы і здзяйсненне творчых планаў!**

**Распытвала Любоў БАРШЧЭЎСКАЯ.**

КУЛЬТУРА МОВЫ

# На памылках вучацца...

Працягваем гаворку пра правільную будову сказа.

«Бо **наш** працэнт за карыстанне пазыкай **у нас** не высокі».

*«Літаратура і мастацтва»*

У прыведзенай вышэй цытаце відавочных памылак няма. Захаваная сэнсавая сувязь паміж словамі, формы слоў таксама адпавядаюць граматычнай норме. Тым не менш памылка ёсць — яна называецца «таўталогія», па азначэнню «Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы» — «Абазначэнне ўжо названага паняцця іншым выразам, які не ўдакладняе сэнсу сказанага». Прычым, акрамя сэнсавай таўталогіі, у тэксце можа быць таўталогія гукавая — калі побач выпадкова ўжываюцца сугучныя словы. У дадзеным выпадку ў адным сказе двойчы тлумачыцца адно паняцце — прыналежнасці: «**наш** працэнт... **у нас**». У адрозненне ад іншых сэнсавых памылак, якія мы разглядалі раней, змагацца з таўталогіяй прасцей — дастаткова адкінуць лішнія словы або замяніць іх лішнімі. Трэба мець на ўвазе, што таўталогія можа быць стылёвым прыёмам аўтара тэксту. Тым не менш гэтай памылкі трэба пазбягаць, не ўпадаючы, аднак, у крайнасці, калі, спрабуючы пазбегнуць ужывання аднаго і таго ж слова некалькі разоў запар, журналісты нагрувашчваюць зусім неверагодную піраміду сінонімаў, аперыруючы і слоўнымі штампамі, і ўласнымі наватворамі («настаўнікі» — «сейбіты разумнага, добрага, вечнага» — «інжынеры чалавечых душаў» — «прадстаўнікі гэтай высакароднай прафесіі» і г.д.).

**Л.ШНІП.**

*(Працяг будзе.)*

ЖЫВОЕ СЛОВА

***Мікола АБАБУРКА***

# Недатыка і нядократка

У 1925—26 гг. М.Байкоў і С.Некрашэвіч пусцілі ў вялікі свет слова **недатыка** як адэкватнае расійскаму **недотрога**. Аднак такія пісьменнікі, як Ц.Гартны, М.Лынькоў і інш., не прызналі яго і па-ранейшаму выкарыстоўвалі слова **незачэпа**. У пасляваенны час Я.Брыль, Б.Сачанка і інш. неаднаразова карысталіся словам **нядократка**, якое, верагодна, з'яўляецца аказіянальным, бо не зафіксаванае ні адным беларускім слоўнікам. Праўда, М.К.Клышка ўключыў яго ў сінанімічны рад побач са словамі **незачэпа і ламака**, хоць апошняе да іх не мае ніякага дачынення. Дык што ж усё-такі адпавядае расійскаму слову **недотрога** ў сучаснай беларускай літаратурнай мове? Найперш заглянем у пасляваенныя расійска-беларускія слоўнікі.

У РБС-53 пад рэд. Я.Коласа, К.Крапівы і П.Глебкі бачым: НЕДОТРОГА 1. разг. недатыка; недаткнёны (о мужчине), недаткнёная (о женщине); 2. бот. мімоза. У РБС-82: 1. разг. недатыка, незачэпа; (о мужчине) недаткнёны; (о женщине) недаткнёная; 2. бот. бальзамін. Гэта ж прадубліравана і ў 3—5 выданнях (1991—1994 гг.).

У БРС-62 пад рэд. К.Крапівы слова **незачэпа** адсутнічае, а **недатыка** мае пamету «разг.» і перакладаецца як **недотрога**. Другое выданне пазбаўленае слова **недатыка**, **а слова незачэпа** адэкватнае слову **недотрога** (гл. БРС-88). Гэта заканамерна і правільна, бо найменне **недатыка** ў параўнанні з назвай **недатыкальная асоба** гучыць вельмі груба.

Цікава адзначыць, што С.М.Грабчыкаў у сваім РБС на працягу 1976—1993 гг. словы **незачэпа і недатыка** як адэкваты да слова **недотрога** мяняў месцамі, г.зн. рабіў дамінантай то першае, то другое.

# Язык як перац

Круціцца, як у віры.
Круціцца, як уюн на гарачай патэльні (на скаварадзе).
Круціцца, як (яго) падпякаюць.
Круціцца, як віхор.
Крывіцца, як серада на пятніцу.
Крыж (у каня) як лава.
Крычыць, як апантаны.
Крычыць, як на каршуна.
Крычыць, як рэзаны.
Крэкча, як жаба.
Крэкча, як стары дзядулька (дзед).
Крэпкі, як камень.
Кудлаты, як баран.
Кудлаты, як поп.
Кукуе, як зязюля.
Кулакі як гіры.
Кульнуўся, як сноп.
Купчыцца, як курыца на кубле (на гняздзе).
Курна, як у восеці (асеці, ёўні, у хаце курнай).
Куслівы, як сабака.
Куслівы, як сляпень (як камар, як авадзень).
Куслівы, як спасаўская муха.
Куцы, як у зайца хвост.
Кучаравы, як баран.
Ласкава, як матчынымі рукамі.
Ласкавае слоўка, як сонейка, грэе.
Ласы, як кот на каўбасы.
Лашчыцца, як сабака.
Лезе, як аса ў вочы.
Лезе, як вош на лоб (на струп).
Лезе, як дым (у вочы).
Лезе, як жаба на куст (на купіну).
Лезе, як мухі да мёду (на мёд).
Лезе, як муха на рану.
Лезе, як муха ў вочы.
Лезе, як слата.




*Рубрыку вядзе Лявон Баршчэўскі*

У японскім прыгожым пісьменстве пачатку XX стагоддзя сваёй таленавітасцю вылучалася рамантычная лірыка паэтэсы Акіка Ёсана (1878—1942) і рэалістычная, філасофская паэзія Ісікавы Такубоку (1886—1913).

Пераклады вершаў зроблены з выкарыстаннем даслоўных перакладаў украінскага знаўцы японскае паэтыкі Мірона Федарышына.

*Акіка ЁСАНА*

## Танкі

*

О юнача
Ты прыгнаў кароў на вадапой
А мне ты песню заспявай
Пад асенні
Сум стаўка

*

За выганам
Да сонца плынь ракі
У зялёным полі
Ты яшчэ пастой
Без цябе краявід мёртвы

*

Упала кропля
На лотас белы
Які мой мілы малюе
Мы на чаўне
Я раскрыла парасон над каханым

*

Як белая лілея
У гарачым джарале
Маё дваццатае лета
Красуецца
Перада мной

*

З адлегласці часу
Бачу цяпер
Кахала я
Нібы сляпец
Абыякавы да змроку ночы

*Ісікава ТАКУБОКУ*

## У старой валізе

Мой сябар валізу старую адчыніў
І на падлогу вываліў кніжкі.
Пры цьмяным мігценні свечкі
Ён браў іх у рукі
Адну за адной —
Забароненыя ў нас кніжкі.
Нарэшце ён спаміж іх знайшоў
Якісьці фотаздымак,
Паказаў яго мне:
«Вось гэта — яна!» —
І, адышоўшыся да акна,
Ціха насвістваць пачаў.
На здымку была маладая жанчына:
Яе не назваў бы я нават прыгожай.

**Пераклад Лявона БАРШЧЭЎСКАГА.**
(Ганарар — у фонд рэдакцыі.)

ПАМЯЦЬ

ПАМЯЦЬ

# Бард ласкаю Божай



*Павіншуй мяне з ціхай раніцай.*
*З ясным сонейкам павіншуй.*
*І сарваныя на праталінцы*
*Кветкі першыя падаруй...*

*Мы паверым вясновай радасці,*
*Мы зімовыя скінем сны.*
*І схавае ад нечаканасцей*
*Нас вясёлы шацёр вясны...*

Чысты, па-юнацку звонкі голас барда выводзіў гэткія ж чыстыя і шчырыя словы песні. Людзі нерухома сядзелі ў інтэрнацкім клубе і слухалі гэты голас, які зачароўваў, працінаючы іхнія сэрцы і душы да самых патаемных глыбінь. Голас то цішэў, то званчэў, то пераліваўся красавіцкім раўчуком, а ў маленькую залу ўваходзілі і ўваходзілі ўсё новыя людзі.

Спяваў пад гітару менскі бард — кампазітар, паэт Алесь Гілевіч.

Перад тым, як выходзіць на сцэну, ён спытаўся ў мяне, мастацкага кіраўніка тэатра беларускай бардаўскай песні і паэзіі «Сябрына», ці можна яму праспяваць новую песню, што стварыў учора.

— Калі ўпэўнены ў песні і ў публіцы, праспявай, — сказаў я, і ён адважыўся.

Публіка, як у такіх выпадках пішуць журналісты, узарвалася апладысментамі. Публіка тым вечарам доўга не выпускала Алеся са сваіх абдымкаў. І я ў думках дзякаваў Алесю Камоцкаму, які прывёў свайго цёзку ў наш гурт. Завяршаўся 1989 год — год росквіту «Сябрыны», у якой знайшлі свае канцэртныя пляцоўкі, акрамя Алеся Камоцкага і Алеся Гілевіча, таленавітыя творцы і выканаўцы аўтарскай песні Валеры Шчэўскі, Уладзімір Варачаеў, Ігар Дабравольскі, Алена Ермачэнкава, Вольга Акуліч, Кастусь Герашчанка. З намі плённа супрацоўнічалі, беручы ўдзел у тэлевізійных «прагонах» і бардаўскіх спектаклях Надзея Мікуліч, Алег Атаманаў, Сяржук Сокалаў-Воюш, Вольга Цярэшчанка, Едрусь Акулін. З гастролямі мы аб'ездзілі ці не ўсю Беларусь, у тым ліку і чарнобыльскія раёны...

Мала цяпер хто памятае, але менавіта з нашага гурта, які з'явіўся на свет па рашэнні сталічнай філіі ТБМ імя Ф.Скарыны, усчаўся першы «масавы» ўсплеск беларускай бардаўскай песні. Усе імёны, што я згадаў, сягоння добра вядомыя шырокай публіцы і ў Беларусі, і за межамі Беларусі. Шмат хто мае лаўрэацкія тытулы.

І я не хачу, каб з гэтай абоймы выпала імя Алеся Гілевіча. Гэты талент не паспеў рэалізавацца поўнасцю. Хаця лічу за шчасце, што нейкі час быў побач з ім. Трагічны выпадак, незразумелы пажар у кватэры, падчас якога не стала Алеся, яго жонкі Вольгі і дваіх дзетак (трэцяе дзіцё цудам уратавалася), абарваў ягоныя бліжэйшыя планы і аддаленую перспектыву.

З моманту смерці Алеся і ягонай сям'і мінуў год. Але гэта паламанае ў 30 гадоў жыццё не дае спакою. І не толькі мне, але і ўсім, хто працаваў з Алесем, ведаў гэтага юнака, сачыў за ягоным пошукам, дапамагаў яму. Таму ў красавіку мы і арганізавалі ў БДУ вечарыну шанавання ягонай памяці...

Ён нарадзіўся 5 сакавіка 1954 года ў Менску. Бацька хлопчыка Міхась Гілевіч, калі вучыўся ў Белдзяржуніверсітэце, таварышаваў з другім Гілевічам — Нілам. Першы быў на той час студэнт хімфака, другі — філалагічнага. Будучыя вучоны-хімік і народны паэт тады вельмі часта высвятлялі, ці не з'яўляюцца яны, калі не родзічамі, то хаця б землякамі. Бо Міхась Пятровіч родам з Капыльшчыны і там гэта прозвішча не распаўсюджанае. А вось на Лагойшчыне, радзіме Ніла Сымонавіча, — наадварот, вельмі шмат Гілевічаў. Калянавуковыя пошукі прывялі да высновы: мусіць, з Лагойшчыны быў прадзед Міхася Пятровіча — Іван, які нейкім чынам з'ехаў адтуль на Капыльшчыну. Можа, дзяўчыну тутэйшую ўпадабаў ды падаўся ў прымы. А, можа, злая доля сарвала з наседжанага гнязда...

Але ж вось феномен: у вучонагахіміка нарадзіўся сын Алесь з талентам «ад культуры». Нібыта ў ім былі закладзены гены знакамітай у мастацкай літаратуры і публіцыстыцы гілевіцкай дынастыі. Так, Алесь мог даць жыццё новай дынастыі Гілевічаў. За 30 сваіх гадоў ён напісаў безліч песень. Паспеў стаць лаўрэатам сталічнага конкурсу, прысвечанага 40-годдзю Вялікай Перамогі. Актыўна запісваўся на радыё. Быў клавішнікам і вакалістам рок-гурта «Блізняты». Стварыў уласны гурт «Аўдзіс», песні якога неаднаразова станавіліся пераможцамі музычных хітпарадаў па радыё. Супрацоўнічаў з клубам самадзейнай песні «Ветразь»... Ён шукаў сябе. І рабіў гэта паспяхова. Бо настойліва працаваў і над словам, і над мелодыяй. Гітарай валодаў бездакорна. Голас — чысцюткая крыніца...

Канешне, родныя-блізкія чым маглі падтрымлівалі Алеся. Яны яму стараліся ствараць усе ўмовы для творчасці. Маці, Рэгіна Усеваладаўна, якая мае тонкі музыкальны слых і прыстойны вакал, нярэдка выходзіла з сынам на канцэртную пляцоўку — і гэта было такое багатае на фарбы суквецце! Жонка Вольга пастаянна шукала тыя самыя пляцоўкі ў рабочых і студэнцкіх інтэрнатах. І калі не атрымлівалася пець за грошы — бард спяваў без аплаты...

Алесь Гілевіч вучыўся ў тым жа Белдзяржуніверсітэце, скончыў геаграфічны факультэт. Ён працаваў пасля і настаўнікам у школе, і геолагам у Гідрагеалагічнай экспедыцыі, падрабляў на розных працах у домакіраўніцтвах. Ён быў бездакорным сем'янінам, бацькам траіх дзетак і стараўся для сям'і зарабіць капейчыну. Бо ўжо час падбіраўся пад нішчымніцу...

Пад канец жыцця ягоная гітара загаварыла пра Бога, Ісуса Хрыста, анёлаў. Мелодыі, непадобныя на ўсе музычныя стэрэатыпы ў бардаўскай песні, сталі вылятаць з-пад яго прамяністых пальцаў і срэбранага горла. На паперу кладзіся верлібры, якія, аказваецца, можна было ў Алесевым выкананні бясконца слухаць...

Да яго творчасці пачалі прыглядацца знакамітыя «Песняры», яны ўключылі ў свой рэпертуар песню Алеся пра Новы год. Бард распачынаў новы этап у сваёй творчасці. Наперадзе чакала выдатная перспектыва...

Шкада, што ягоны адлёт у вырай адбыўся надзвычай рана.

**Алесь МІКАЛАЙЧАНКА,**
**літаратар, мастацкі кіраўнік у 1988—1991 гадах тэатра беларускай бардаўскай песні і паэзіі «Сябрына».**

**НА ЗДЫМКУ З СЯМЕЙНАГА АЛЬБОМА**: Алесь Гілевіч у часе рэпетыцыі. Такім яго запомнілі родныя і таварышы, калегі і аднадумцы.

*Уражанні*

*Мікола КАПЫЛОВІЧ*

## У палоне і прыгоне

— Маю суседку ў агародзе злавілі. Бульбу капала. Крала. Ноччу з ліхтарыкам. Злавілі і прымусілі тую бульбу есці. Грызці сырую. А ў яе зубоў няма. Пенсіянерка. На самую малую пенсію жыве. На калгасную. Думаеш, злітаваліся і адпусцілі? Дзе там! Загадалі ў тым агародзе рабіць. Бульбу ім выкапала, буракі, моркву. Бульбянішча потым граблямі пабаранавала. Каб толькі ў міліцыю не паведамілі. Карацей, трапіла бабуля ў палон і прыгон. Цэлую восень за так рабіла. Як у калгасе пасля вайны. Нават палачак ёй у ведамасці не паставілі...

## Смяяцца перастала

— Хіба вы мужчыны? Вы — анучы! Якімі боты выціраюць. Хамуты! Ядрона маць! Ганяюць вас жонкі, як паганых сабак. Пачуе каторая пах гарэлкі — крык, гвалт на ўвесь пад'езд. Міліцыя прыязджае — начуеце ў кутузцы. Штрафы плаціце. Дамоў выпусцяць — лезеце да жонак цалавацца. «Мая мілая, мая харошая». Даўно не бачыліся, ядрона маць! Нібы з фронту вярнуліся. Ды з вамі сорамна сядзець на адной лаўцы. Вось зараз выскачыць да каторага з вас жонка і пагоніць палкаю дамоў. Ядрона маць! Выхоўваць жонак трэба. Мая вунь Лена ніколі не падыме на мяне голас. Слова не скажа насуперак. Толькі зірну — млее ад страху. Бо дысцыпліну чуе. Мужчынскую. А завёў я гэтую строгасць у сям'і адразу, як жаніўся. Пасля вяселля мы ў госці пачалі хадзіць. Па маёй радні. Радня вялікая. Усе запрашаюць. Частуюць добра. Ходзім. І вось — вяртаемся аднойчы дамоў. Ад маёй сястры. Жонка вясёлая. Усю дарогу снежкі ў мяне шпурляла. Гуляла. На ганак ужо падняліся. Месяц свеціць, іней на галлі. А яна, мая Ленка, у белым шаліку, зноў да мяне: абдымае, смяецца, радуецца. Я трохі выпіўшы быў. Не ведаю, што мяне зачапіла, але быццам нейкі агонь у душы ўспыхнуў. Смяешся? Шчаслівая? Дык ведай: цяпер я твой гаспадар. Смейся і радуйся, калі я захачу. Нічога гэтага не сказаў, не паспеў. Толькі мільганула ў галаве. А сам як развярнуся!.. Яна нават усміхацца не перастала, нават спалохацца не паспела — з ганка пакацілася, ядрона маць. Толькі потым ужо бачу: ляжыць у снезе і чырвань з твару сплывае. Нібы снег стала белая. І ўсё. Выхаваў. Вывучыў. Адразу... Лепш заўсёды адразу, ядрона маць. Каб лейцы моцна трымаць у руках. Галоўнае — нечакана. Галоўнае — каб ні за што. Гэта я ўжо пазней да канца дадумаў. Тут вялікая псіхалогія: урэзаў ні за што. А калі будзе прычына? Тады, ядрона маць, што будзе? Заб'ю. З таго выпадку слухаецца мяне, што ні скажу. І дома поўны спакой і парадак. Толькі адна накладка выйшла: смяяцца перастала. Баіцца з таго часу ўсміхацца. З вяселля.

## Во смеху было!

— Нядаўна ў нас калгас распускалі. Абанкруціўся. Да саўгаса далучалі. І раптам на сходзе стары Міканор пачаў крычаць, каб яму вярнулі каня. Таго, які ён здаў калгасу. У час калектывізацыі. «А якой масці ў цябе конь быў? Памятаеш?» — спытаў у яго старшыня. «Як жа не помніць, — адказаў Міканор. — Ён у мяне і цяпер у вачах стаіць: буланы, з зорачкай на лбе». «Ну, дык ідзі ў канюшню і забірай свайго каня. Толькі таго самага, якога здаваў у калгас. У трыццатым годзе!» Гэтак на ўвесь клуб крыкнуў старшыня і працягнуў Міканору вуздэчку. Во смеху было!

# Праз гушчу стагоддзяў




Віктар Валянцінавіч Шабасовіч славіцца на Мазыршчыне як вялікі энтузіяст. У мінулым выкладчык гісторыі, ён цяпер навуковы супрацоўнік Мазырскага краязнаўчага музея. Віктар Валянцінавіч шмат робіць па стварэнні гісторыі палескага краю. Асабліва цікавіць яго Мазыр. Першая ж летапісная згадка аб горадзе адносіцца да 1155 года. За многія стагоддзі над Мазыром прашумела нямала бур, горад не раз перажываў часы заняпаду і росквіту.

Адкрыць як мага больш новых, цікавых, дакладных старонак у гісторыі старажытнага палескага горада і паставіў сваёй задачай Віктар Шабасовіч.

**На здымках:** 1. **Віктар Шабасовіч** са званамі, якія ўпрыгожвалі некалі званіцы храмаў, размешчаных вакол Мазыра. 2. Гэтак выглядаў Мазыр 345 гадоў назад (рэпрадукцыя).

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, Белінфарм.**



*Пытанне — адказ*

## Прэтэнзіі да рэдакцыі

*Паважаная рэдакцыя, у № 12 (22.03.95) пад рубрыкай «Меркаванні» я ўбачыў «свае» прапановы. Мне цяжка зразумець, чаму безнадзейна позна змешчаны мой зварот. Ну што можа падумаць чытач, прачытаўшы такое пасля 22 сакавіка. У лепшым выпадку скажа, ну вось прачнуўся нейкі дзівак.*

*Хіба застаўся час, каб да 14 мая паспець зрабіць усё тое, што патрэбна для перамогі на выбарах, што прадугледжвалася мною? А таму я вельмі хачу, каб было змешчана неабходнае тлумачэнне для чытачоў. З яго чытачы павінны даведацца, што мае прапановы былі дасланы ў рэдакцыю «Нашага слова» 29 снежня 1994 г.*

**А.КРЭМЕНЬ.**

**Ад рэдакцыі.** Сапраўды, ліст паважанага сп. А.Крэменя па шэрагу аб'ектыўных і суб'ектыўных прычын крыху «пераляжаў» у рэдакцыйным партфелі, за што і просім прабачэння. Але сказаць, каб прапановы цалкам састарэлі, было б не зусім карэктна, калі ўлічыць, што партыі ствараюцца не пад адны выбары, а аб'яднанне грамадзян у адзінае цэлае — Народ і ўвогуле справа на многія гады. Аб тэрмінах правядзення з'езда ТБМ рэдакцыя паведамляла, гэта дэталёва абмяркоўвалася на пасяджэннях Рэспубліканскай Рады, дзе разглядаліся многія прапановы сяброў ТБМ, узважвалася і грамадска-палітычная сітуацыя, ды і рэальныя фінансавыя магчымасці таварыства.

## ПРЭСА-КУЛАМЕСА

**ДЗЕ ТЫ, ЗАМЕЖНАЯ АЙЧЫНА?**

«Акрамя стужак пра славутых беларусаў мінулага, у яго ўваходзяць кінематаграфічныя партрэты вядомых **суайчыннікаў замежжа**».

*«Добры вечар»*

**НАВІНЫ ГЕНЕТЫКІ: ГІБРЫД ВЕТРАЗЯ І ВІТРАЖА**

«13.55 «Латвійскія **ветражы**» Тэлефільм».

*«Беларускае тэлебачанне і радыё»*

**ГАЗЕТУ «НАБАТ» ПЕРАЙМЕНАВАЛІ**

«12.05. На хвалі часу. «Боль зямлі». Гутарка з галоўным рэдактарам газеты «**Пабег**» В.Якавенкам».

*«Беларускае тэлебачанне і радыё»*

**ЯК ЖА НЕ АБВІНАВАЦІЦЬ...**

«Абвінаваціць аўтара такіх **верашў** у элементарным няведанні мовы, у «неахайным стаўленні да слова і думкі» можа толькі той, хто не бачыць і не чуе».

*«Літаратура і мастацтва»*

**СНЕГ БЫ ПЛАХА**

«Яго туша ляжала пад вялікай сасной у **гурбе снегу з уторкнутым тапаром**».

*«Сталіца»*

**І ТУТ РАСПУСТА**

«Фірма... прапануе **распушчальныя** каву, какаву...».

*«Свабода»*

**ГЛЁБУС — АРЛЁЎ — МЭТАЛЯЛЁМ**

(Літарацкія жарцікі)

...Глёбус пытаецца ў Арлова: «Калі я Глёбус, дык чаму ты не Арлёў?» Арлоў... і згадзіўся: «Арлёў дык Арлёў». Так у «Нашай ніве» (аднойленай, авагарднай — рэд.) з'явіўся «мэталялём».

*Ы.Ж. — А.Р. («Культура»)*

**«СВАБОДНАЯ» SCHOKOLADE (ДОЙЧ.)**

«Фірма... прапануе **шакаладныя** крэмы...

Прапануе... **чакалята**...»

*«Свабода»*

## Пачутае «У Лявона»

Маці з маладзенькай дачкой-прыгажуняй прыходзяць да ўрача:

— Распранайцеся, — гаворыць урач дзяўчыне.

— Гэта я хворая, — тлумачыць маці.

— Прабачце.. Прашу паказаць язык.

***

Следчы суддзя робіць агляд месца, дзе быў зроблены паступак, а яго пісар запісвае ў пратакол:

...на стале знайшлі бутэльку з «Зуброўкай»...

— Э, пачакайце, — кажа следчы, — трэба ж пакаштаваць, ці тут праўдзівая «Зуброўка»? Гэта вельмі важна для справы.

Пакаштаваў і кажа:

— Пішыце, што «ў бутэльцы была «зуброўка».

— Не, гэта здаецца не «Зуброўка», а «Пярцоўка», — кажа пісар і здарава глынуў з бутэлькі.

— Не можа быць!? — здзівіўся следчы і яшчэ раз прылажыўся да бутэлькі.

— А што, «Пярцоўка»? — стараўся пераканаць яго пісар і яшчэ раз глынуў са смакам.

Сціснуў плячыма следчы, ды і кажа:

— Пішыце ў пратакол, што на стале знайшлі парожнюю бутэльку і ніяк не маглі даведацца, што ў ёй было.

***

— Афіцыянт, што гэта такое? Я знайшоў гузік у вашым супе!

— Дзякую вам, што вы яго знайшлі, а то я ўсю раніцу думаў, куды ён знік.

***

— Ну, як ваша хвароба? — пытаецца ў селяніна доктар.

— А хай яе ліха! Вельмі ўпартая.

— А як ваша жонка?

— Такая ж самая, доктар.

***

— Аб чым ты думаў, калі я паслала табе паветраны пацалунак?

— Аб тым, што ты вельмі лянівая.

***

— Гэта вы выратавалі майго сына, калі ён тапіўся?

— Я.

— А дзе яго шапка?

***

Каля хворага мужа сядзіць яго жонка, плача і гаворыць:

— Што б табе даць, мой любы, кашкі?

— Не хачу.., — адказвае хворы.

— Можа, боршчыку?

— Не хачу...

— То, можа, бульбачкі?..

— Не хачу, — аж стогне муж.

— А можа гарэлачкі?

— А Бог яго ведае...

*Пародыі*

**Міхась СКОБЛА**

## Трыо

*Какая музыка была...*
**А.МЕЖЫРАЎ**
*Якая музыка была!*
**Р.БАРАВІКОВА**
*І ўжо не музыка чутна...*
**М.СТРАЛЬЦОЎ**

Такое музыкі, дальбог,
не чуў ніхто, нідзе, ніколі —
паэтка й два паэты — ўтрох,
варылі кашу з мі-фа-солі.

Паэта Сашу браў азарт —
надзеўшы фрак, а не фуфайку,
ён камуністаў зваў назад,
спяваў свой верш пад балалайку.

Сядзеў сур'ёзны, нібы князь,
у рукі дзедаву жалейку
нясмела браў паэт Міхась,
маўчком, бы адбываў калейку.

А паміж іх, як дырыжор,
натхнёна, голасна, вясёла
не ў ля-мінор, а ў фа-мажор
вяла паэтка Рая сола.

Не разабраць было, хоць плач —
хто з гэтых творцаў самы хітры,
бо ёсць у кожнага слухач,
прад кожным — ноты на пюпітры.

Злавацца зала пачала,
нагамі тупала, крычала:
— Чыя то музыка была?
Чыя то музыка гучала?

Паэты два
ступілі ўбок.
Ды ліха з ёй, з музычнай гамай.
Не мог ніхто з іх, бачыць Бог,
супернічаць на сцэне з дамай.

## Адказы на крыжаванку, надрукаваную ў № 16

**Па гарызанталі:** 5. Лукавіна. 6. Станоўчы. 8. Вясёлкавы. 11. Пляма. 14. Марна. 15. Пральны. 16. Аздоба. 17. Крамны. 21. Сцяжына. 22. Груца. 23. Хваля. 26. Вірлавокі. 27. Знікнуць. 28. Набываць.

**Па вертыкалі:** 1. Гушкалка. 2. Пісяг. 3. Барва. 4. Шчыліны. 7. Бляклы. 9. Змерзнуць. 10. Масянжовы. 12. Зрабіць. 13. Унураны. 18. Сыравіна. 19. Ужытак. 20. Налічыць. 24. Вісус. 25. Скабы.

Заснавальнік: ТБМ імя Ф.Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220029, г.Менск, вул.Чычэрына, 1. Тэлефон: 33-17-83.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Вінцук Вячорка, Віктар Гайсёнак, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Аляксей Глушко, Сяргей Запрудскі, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Зміцер Санько, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Віктар Шніп.
Адказны сакратар Здзіслаў Сіцька.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

Індэкс 63865. Замова 1202

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». 220041, г.Менск, пр.Ф.Скарыны, 79.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Наклад 5905 паасобнікаў.
Падпісана ў друк 25.04.1995 г. у 15 гадзін.